PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 44 (1903) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 1 ЛІСТАПАДА 1992 г. ЦАНА 2000 зл.



Суседская асенняя размова. Фота Віктара Волкава

## „ЗБАЎ ГОСПАДЗІ БЕЛАРУСКІ КРАЙ..."

/занатоўкі з Беларусі/

Увесь праваслаўны свет памятае год 1988 - тысячагоддзе Хрышчэння Русі. Тады ўсім і ўсюды прагучала радасная вестка, што Царква на ўсходнеславянскіх землях жывая, што гады бязбожніцтва не здолелі Яе здушыць і фізічна знішчыць. І калі толькі аблягчыўся ціск кіпцюроў бязбожнага дэмана, маланкава пачалі адраджацца епархіі, манастыры, прыходы... Выявіліся тысячы людзей, жадаючых атрымаць багаслаўленне Царквы на сужонства.

Разам з Расіяй і Украінай таксама і Беларусь пачала скідаць ярмо дзяржаўнага атэізму. Яна, мабыць, найбольш пацярпела ў гады антырэлігійнай прапаганды і цяпер чакае яе вялікая праца па адраджэнню жывога Цела Царквы. І як бы на пацвярджэнне правільнага шляху адраджэння Царквы ды на падтрымку ўсім вернікам, дадзена была ёй знамянальная дата - 1000-годдзе Полацкай епархіі і 1000-годдзе Хрысціянства ў Беларусі.

Чаму менавіта Полацк і Полацкая епархія так важныя ў гісторыі Царквы ў Беларусі?

Полацк - гэта старажытнейшы горад Беларусі /упершыню ў летапісах згадваецца пад 865 г./, калыска Праваслаўя ў Беларусі, цэнтр епархіі, заснаванай у 992 годзе. Полацк - гэта таксама калыска беларускай дзяржаўнасці ды наогул горад, які ў іерархічнай ступені важнасці ў гісторыі старажытнай Русі стаіць побач Кіева і Ноўгарада.

Першым вядомым полацкім епіскапам быў свяціцель Міна. З Полацкам непарыўна звязаны імёны полацкай княжны прападобнай Ефрасінні ды беларускага першадрукара Францыска Скарыны. Таму вось юбілей 1000-годдзя Полацкай епархіі прыцягнуў асаблівую ўвагу не толькі Царквы, але і беларускай дзяржавы.

З 24 да 27 верасня г.г. тры старажытныя беларускія гарады: Менск, Заслаўе і Полацк былі сведкамі ўрачыстасцяў, звязаных з вялікім юбілеем. Ужо 23 і 24 верасня беларуская сталіца пачала прымаць гасцей з розных бакоў свету. Знамянальнасць свяктаванняў падкрэслілі архіпастыры з трох старажытных патрыярхатаў: Канстанцінопальскага/мітрапаліт Дамаскінас/, Александрыйскага ды Антыёхскага. Запрошаныя на ўрачыстасці былі таксама архіпастыры з Маскоўскага патрыярхату, Украінскай царквы, Царквы ў Польшчы /архіепіскап Сава/; прысутнічалі ўсе дзесяць беларускіх епіскапаў ды іншыя духоўныя асобы.

У пятніцу, 25 верасня, усе госці сабраліся ў Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь на царкоўна-навуковай канферэнцыі, прысвечанай 1000-годдзю Полацкай епархіі і Праваслаўнай царквы ў Беларусі. Пасля афіцыйных прывітанняў з боку

Працяг на стар. 5

## КАМУ МУЗЕЙ?

Беларускі музей у Гайнаўцы будуецца, гаворыць старшыня Грамадскага камітэта Канстанцін Майсеня. Пабудаваць не штука, але што далей - сказаў 10 кастрычніка ў Гайнаўцы віцэ-міністр культуры і мастацтва Польшчы Міхал Ягела. 10 кастрычніка ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы прайшла каторая ўжо сустрэча, прысвечаная будучыні гэтага ж аб'екта.

У сустрэчы прынялі ўдзел: пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Сянько /з яго ініцыятывы дайшло да гэтай сустрэчы/, віцэ-міністр Міхал Ягела, бурмістр Гайнаўкі Мечыслаў Гмітэр, дырэктар Аддзела па грамадскіх пытаннях Ваяводскай управы Эўгеніюш Біль-Ярузельскі, прадстаўнікі Грамадскага камітэта пабудовы і Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Канстанцін Майсеня прадставіў інфармацыю пра поступ пабудовы. Дагэтуль пабудова музея, калі ўсе ўложаныя ў яго сродкі правесці на сённяшнія цэны, каштавала 8 мільярдаў злотых. К. Майсеня запэўніў прысутных, што пабудова вялася і вядзецца ашчадна - прывёў дзеля гэтага шмат прыкладаў. У пабудове дапамагалі гміны Нарва і Гайнаўка - 20 і 25 мільёнаў датацыі. Два мільярды злотых, калі б такія знайшліся, мяркуе К. Майсеня, закончаць пабудову.

Адносна будучага выкарыстання Музея і прыбытку з яго, Грамадскі камітэт пабудовы думае наладзіць у ім гасцініцу, арганізаваць у Музеі выстаўкі для мясцовых і замежных беларускіх мастакоў, спалучаныя з абменам тавару, адступаць залы для вясковых калектываў і дзеля вяселляў. Сёння ў адным з музейных памяшканняў суполка "Унібуд" арганізавала сваю краму.

За апошнія два гады, сказаў віцэ-міністр Міхал Ягела, у Музеі я трэці раз. Кожным разам стаўлю вам адно канкрэтнае пытанне: як вы бачыце функцыянаванне Музея? Як прынцып, заўсёды атрымліваю дэталёвую тэхнічную інфармацыю пра ход пабудовы ды інфармацыю пра тое, што ў гэтым Музеі мае быць у будучым. Мы не разумеемся, бо Міністэрству культуры і мастацтва, сказаў Міхал Ягела, ідзе пра дэталёвую праграму працы Музея, пра яго канцэпцыю - колькі залаў і як яны маюць быць выкарыстаныя. Толькі тады яно зможа пераказаць сродкі на абсталяванне гэтых жа залаў.

Дзеючыя бюджэтныя законы, паведаміў Міхал Ягела, не дазваляюць дзяржаве фінансаваць інвестыцыі, якія не з'яўляюцца дзяржаўнай уласнасцю. Пабудова Беларускага музея ў Гайнаўцы вядзецца намаганнямі Грамадскага камітэта, што ў святле законаў з'яўляецца прыватнай інвестыцыяй, у сувязі з чым узнікае асноўная праблема - як дакончыць пабудову і як утрымаць Музей у будучым? Грамадскі камітэт пабудовы мог бы прыняць рашэнне аб перадачы Музея дзяржаве, гаварыў Міхал Ягела, і тады сітуацыя была б зусім яснай. Міністэрства культуры і мастацтва аднак да такога вырашэння

Працяг на стар. 8

## ПРАЎДА

Тры тыдні таму пасланец прэзідэнта Расеі перадаў прэзідэнту Польшчы копію рашэння Палітбюро савецкай камуністычнай партыі ад 5 сакавіка 1940 г. аб расстрэле палоненых польскіх афіцэраў (агулам звыш 25000 чалавек). Пад дакументам стаяць подпісы 5 членаў Палітбюро (сярод іх — Сталіна і Молатава). Справа так званага „катыньскага злачынства" пасля 50 гадоў знайшла свой палітычны эпілог.

Можна запытацца — а якая карысць ад пацвярджэння таго, што ўсе і так ведалі альбо здагадваліся (хоць увесь час камуністычныя Масква і Варшава падтрымлівалі сталінскую хлусню)? Хутчэй за ўсё — маральная. Бо і ў якіх іншых катэгорыях можна вымяраць працэс адкрывання гістарычнай праўды, працэс здымання „белых", „чорных" і „чырвоных" плямаў з гісторыі? Ахвярам гэтая праўда ніякім чынам не дапаможа, катаў ужо не пакараеш, бо іх даўно няма ў жывых. Але — ёсць народ, ці, лепш сказаць, народы, якім гэтая праўда неабходная. Палякі ў сувязі з „катыньскай справай" паказалі, што заслугоўваюць гэтай маральнай сатысфакцыі, якую даў ім Ельцын.

Перадача гэтых дакументаў, як усе агульна прызнаюць, паслужыла Ельцыну важкім аргументам у палітычнай барацьбе з Гарбачовым і, шырэй, з тымі сіламі ў Расеі, якія хацелі б адхіліць прэзідэнцкі дэкрэт аб дэлегалізацыі КПСС. Праўда, у палітычным аспекце, мае вымяральную вартасць — яе „збываюць", каб утрымацца пры ўладзе, знішчыць сваіх палітычных сапернікаў... Пра маральнасць тут не выпадае гаварыць. Калі ведаў Гарбачоў, то ведаў і Ельцын, год таму пераймаючы ад Гарбачова ключы да сейфаў з самымі найсакрэтнымі дакументамі Імперыі. Аднак адкрыў тыя дакументы адно цяпер, калі ягоная пазіцыя ў Крамлі пачала хістацца.

У крамлёўскім архіве знаходзіцца каля 90000 сакрэтных актаў — матэрыялаў з гісторыі СССР і КПСС з 1917-91 г.г. На большасці з іх, пэўна, як і на „катыньскай справе", знаходзіцца засцярога — „Ніколі не адкрываць". Таму выпадае паставіць тут пытанне — якая палітычная кан'юнктура патрэбная, каб свет даведаўся закулісная праўды пра сталінскі генацыд 30-х гадоў, пра беларускія Курапаты, пра сібірскія лагеры, пра ўсё тое, што насіла ў савецкія часы штамп „совершенно секретно"? Пэўна ж, самога грамадскага запатрабавання на гістарычную праўду не хопіць, каб яе атрымаць (прыкладам, камісія па расследаванні масавых расстрэлаў у Курапатах пад Менскам нічога новага не выявіла). Хутчэй за ўсё патрэбная тут будзе сітуацыя такога „гандлю праўдай", як гэта прыдарылася з Ельцыным і Гарбачовым. І гэта ёсць праўда (даволі паршывая) аб адкрыванні гістарычнай праўды.

ЯН МАКСІМЮК

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Ратуй, Божа, ад парламента.*
*(Чырвоная змена, н-р 42)*

Калі трывога, дык да Бога.

* * *

*... паведамілі работнікі загса Савецкага раёна: за 8 месяцаў тут уступілі ў шлюб 664 маладыя пары. А скасавалі ж свой „моцны" шлюб... 663.*
*(Чырвоная змена, н-р 42)*

Баланс, усё-такі, застаецца на плюсе. А пры нагодзе: яны там што, разводы даюць задарма?

* * *

*5 стагоддзяў таму Калумб адкрыў Амерыку. Сёння амерыканцы адкрываюць Беларусь. Афіцыйным „адкрывальнікам" стаў першы пасол Злучаных Штатаў Амерыкі ў нашай Рэспубліцы містэр Дэйвід Суорц.*
*(Minsk Business News, nr 2)*

Цікава, калі беларусаў спаткае лёс амерыканскіх індзейцаў пасля гэтага каласальнага адкрыцця?..

* * *

*Камуністы кажуць, што ім не хапіла да пабудовы развітага сацыялізму 500 дзён.*
*(ЛіМ, н-р 41)*

Сапраўды, шкада.. Але на Беларусі ўсё яшчэ маюць шанц.

* * *

*Białystok przestaje być miastem peryferyjnym*
*(Gazeta Wyborcza, nr 241)*

Сократ Яновіч яшчэ пры камуністах зрабіў адкрыццё, што Беласток — Вялікі горад. Але тады яму не паверылі.

* * *

*Jeśli panią X, która oficjalnie nigdzie nie pracuje, odwiedzi inspektor skarbowy i zapyta, skąd ma pieniądze na życie, nie powinna się wahać ani chwili. Jeśli odmówi ujawnienia źródła zarobków, fiskus zabierze jej trzy czwarte (dochody pochodzące z nieujawnionych źródeł podlegają opodatkowaniu w wysokości 75 proc.). Jeśli natomiast powie, że jest prostytutką, nie zapłaci ani grosza podatku.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 245)*

* * *

*Co najmniej sześciu poborowych zostało skazanych w tym roku na więzienie za odmowę służby wojskowej. Niektórzy po prostu nie chcą do wojska, inni — jak Gałuszko albo sympatycy świadków Jehowy — odmawiają służby z powodów moralnych.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 247)*

* * *

*Шаноўныя чытачы! Тое, што многія з вас дагэтуль не змаглі выпісаць „ЛіМ" на будучы год, мы называлі недаглядам службовых асоб. А трэба было б назваць — сабатажам!*
*Бо як інакш назваць сітуацыю, калі на беларускамоўныя выданні беларусы не могуць падпісацца не толькі ў краінах СНД, але і ў сваёй суверэннай беларускай дзяржаве?!*
*(ЛіМ, н-р 43)*

Некаторыя з нашых чытачоў выстаўляюць нам прэтэнзіі за тое, што „Ніва" не ідзе ў Беларусь...

* * *

*Дым бальшавізму над плошчай Незалежнасці.*
*(Наша слова, н-р 41)*

Нічога новага (у Менску).




**Польшча** не можа прыняць больш як мільён бежанцаў. Калі б перавысіць гэты лік, тады без дапамогі звонку наша краіна не змагла б знайсці прытулку і выкарміць гэтых людзей.

**Вывад вайсковых часцей Расейскай Федэрацыі** назіраецца да канца. У Польшчы няма ўжо ніводнага самалёта, танка ні бронетранспарцёра. 28 кастрычніка г.г. пакіне Польшчу апошняя ваенная часць — брыгада тарпедных катэраў са Свінавусця.

**Польскія мусульмане**, аб'яднаныя ў Мусульманскім рэлігійным саюзе (МРС) накіравалі польскаму ўраду ліст, у якім выказваюць яны свой пратэст з прычыны падзеяў у Босніі і Герцагавіне. У лісце заклікаюць яны ўрад прызнаць сербаў агрэсарамі і адмоўна ставіцца на міжнароднай арэне да іх дзейнасці. „З мэтай захаваць сваю гегемонію сербы на вачах усяго цывілізаванага свету знішчаюць баснякоў, у большасці мусульман" — напісаў **Ян Сабалеўскі** старшыня Вярхоўнай калегіі МРС.

**21 верасня Дзяржбанк РБ** спыніў свабодную продаж валюты на тэрыторыі Беларусі. Цяпер каб купіць валюту (дазваляецца 500 долараў), трэба паказаць пашпарт з важнай візай.

**Літва** ў пачатку будучага года стане раўнапраўным членам Рады Еўропы. Справа членства будзе разглядацца Генеральнай асамблеяй Рады ў лютым 1993 года. Дырэктар РЕ **Ганс-Петэр Фурэр** заявіў у Вільні, што Літва многае ўжо зрабіла ў галіне рэфармавання сваёй прававой сістэмы і выконвання правоў чалавека, аднак многае ў гэтым напрамку трэба яшчэ змяніць.

**Ваяводская камісія па ахове прыроды** (дарадчы орган Беластоцкага ваяводы) на сваім апошнім пасяджэнні разглядала экалагічную сітуацыю ў ваяводстве. Члены камісіі звярнулі ўвагу на няправільную гаспадарку будаўнічай тэрыторыяй, напрыклад, беластоцкі пасёлак Ярашоўка пабудаваны каля крынічных вытокаў. Небяспечнай з'яўляецца разгрузка калійнай солі на мосце ў Семяноўцы, што можа прывесці да экалагічнай катастрофы — забруджання вадасховішча і ракі Нарвы. Прыярытэтнай справай камісія палічыла пабудову ачышчальняў сцёкаў у Гайнаўцы, Белавежы і Саколцы.

**У Белавежы** адбыўся семінар для журналістаў, якія займаюцца экалагічнымі пытаннямі. У семінары прыняло ўдзел шэсць амерыканскіх і дзесяць польскіх журналістаў. Разглядаліся дзве тэмы: „Будучыня Белавежскага нацыянальнага парку як біясфернага запаведніка" і „Праграма і тэхніка працы экалагічных журналістаў".

**Дырэктар па справах нацыянальных меншасцяў Міністэрства культуры і мастацтва Багуміла Бэрдыхоўская** сустрэлася 19 кастрычніка г.г. у Беластоку з кіраўніцтвам Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У час сустрэчы разглядаліся пытанні дзейнасці Таварыства ў найбліжэйшы перыяд. А 25 кастрычніка ў Беластоку адбылася інаўгурацыя культурна-асветнага года 1992/1993 і адкрыты пленум Галоўнага праўлення БГКТ.

**Помнік героям Беласточчыны** займае ўвагу многіх беластаччан. Былі ўжо прапановы перайменаваць яго на Помнік Беламу Арлу, часта гавораць, каб назваць яго Беластоцкім пантэонам. Прапагандуецца таксама канцэпцыя папаўнення элементаў помніка. Сярод мемарыяльных камянёў з'явіўся ўжо камень з надпісам „Загінуўшым і замучаным за свабодную Польшчу". Неўзабаве з'явяцца іншыя валуны, між іншым з надпісам **„Жыхарам парганічча, верным прынцыпам талерантнасці і згоднага сужыцця між народамі"**.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### КУДЫ ЦЯПЕР ПАЙСЦІ САЛДАТУ?

Беларускае войска /ад радавых да генералаў/ адчувае пільную патрэбу ў абароне, калі меркаваць па колькасці заступнікаў, якія паяўляюцца апошнім часам у рэспубліцы.

Днямі Менскім гарвыканкамам зарэгістраваны "Саюз афіцэраў запасу горада" - грамадская арганізацыя, заснаваная для абароны правоў на працу, жыллё, медыцынскае абслугоўванне былых вайскоўцаў і іх сем'яў. Тым часам ваеннаслужачыя тэрміновай службы ствараюць у рэспубліцы асобны камітэт абароны сваіх правоў.

Пакуль, на думку членаў аргкамітэта новаўтвараемага грамадскага аб'яднання, пакутнікі ад войска не знойдуць спачуваючых ні ў ваеннай пракуратуры, ні ў "Фондзе абароны вайскоўцаў", што займаецца хутчэй камерцыяй, чым праблемамі салдат. Камітэт жа будзе прынцыпова разглядаць нават самыя дробязныя праблемы салдацкага жыцця, а таксама адстойваць правы маладых людзей на выбар альтэрнатыўнай службы.

### ЛЮБІШ КАТАЦЦА, РУПІСЯ І НАФТУ ЗДАБЫВАЦЬ

Па ўсім відаць, складаную задачу задаў беларускі ўрад расейскаму кабінету, бо ніяк не адважыцца апошні адказаць станоўча ці адмоўна на пытанне аб магчымасці распрацоўкі сіламі Беларусі трох з паловай тысяч закінутых нафтавых свідравін на тэрыторыі Расеі. Выконваючаму абавязкі кіраўніка ўрада Расейскай Федэрацыі Ягору Гайдару былі прапанаваны варыянты здачы закінутых свідравін у арэнду Беларусі ці прадстаўлення карыстання імі ў форме канцэсіі. Але ж, пэўна, самі не з'ядуць і беларусам не дадуць.

### КАЛІ ВАКОЛ АПРАНАЮЦЬ, САРОС ВУЧЫЦЬ

Заснавальнік сусветнавядомага Фонду Сароса - Джорж Сарос днямі наведаў Беларусь. У адрозненне ад многіх замежных дабрачынцаў, ён не збіраецца пастаўляць на Беларусь адзенне, абутак і прадукты харчавання, а ўкладвае сродкі ў людзей, якія выконваюць праграмы. Падчас сустрэчы з першым намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Вячаславам Кузняцовым было адзначана, што спецыялісты ЗША і іншых краін маюць намер аказаць рэспубліцы кансультатыўныя паслугі ў галіне эканомікі, заканатворчасці, арганізаваць навучанне і стажыроўку за мяжой маладых прадстаўнікоў беларускай навукі, бізнесу, палітыкі.

### ЯК ВЯРТАЕШ ГРОШЫ, ТО І САМ ХАРОШЫ

Беларусь - адна з нямногіх рэспублік СНД, якія захавалі права дзяржавы ўстанаўліваць курсы долара ў адносінах да рубля. Цяпер прадпрыемствы рэспублікі вымушаны прадаваць дзяржаве зароблену валюту па драпежніцкаму курсу - 50 рублёў, што падштурхоўвае іх кіраўнікоў змяшчаць прыбытак у замежных банках. Між тым, у парламент рэспублікі накіраваны праект змяненняў у Крымінальна-працэсуальным і Грамадзянскім кодэксах, дзе прадугледжваецца, што тым, хто "ўтаіў" такім чынам валюту, пагражае турэмнае зняволенне да трох гадоў.

### КАВАЛЕРАЎ ВІНШАВАЛА ПАНІ ПАСОЛ

Днямі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшчы ў Беларусі Альжбета Смулэк уручыла ордэн Заслугі Рэспублікі Польшча двум вядомым навукоўцам і грамадскім дзеячам. Беларускімі кавалерамі ордэна сталі Адам Мальдзіс - дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Скарыны і В. Л. Вярэніч - старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.

### ХЛЕБА І КАНСТЫТУЦЫЮ!

Спробай перарваць "змычку нацыянал-капіталістаў і наменклатуры" назвалі арганізатары чарговай акцыі на плошчы Незалежнасці ў Менску свой мітынг у апошні дзень перад пачаткам сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі. Ад заканадаўцаў Асацыяцыя незалежных работнікаў аўтасельгасмаша і радыёэлектроннай прамысловасці патрабавалі, каб новая Канстытуцыя гарантавала права на працу і сацыяльную абарону і прымалася толькі праз усенародны рэферэндум. Каб стабілізаваць эканоміку, яны прапануюць захаваць дзяржаўнае рэгуляванне на энергарэсурсы, дзіцячыя тавары, медыкаменты, замарозіць цэны на асноўныя прадукты харчавання і на праезд у гарадскім і прыгарадным транспарце.

### З ПЕСНЯЙ - ДА ЗГОДЫ!

У нядзелю, 18 кастрычніка, сем'і, якія адпачывалі ў менскім парку імя Горкага, сталі сведкамі свята "Клічам да згоды". На яго запрасіла мянчан Партыя народнай згоды, у якую, дарэчы, аб'ядналіся многія былыя члены КПБ. Адбылася прэзентацыя газеты "Згода", а галоўным спонсарам свята быў, як ні дзіўна, Андрэй Разін, вядомы ўсім фанатам ансамбля "Ласкавы май".

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**



## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Штодзённае жыццё ў гміне Дубічы Царкоўныя.
- Адны гавораць, што „Ніва" камуністычная, другія — што пацыя-налістычная.
- Юры Туронак напісаў кніжку пра В. Іваноўскага.
- Юбілей Сцяпана Копы.
- БГКТ пачало новы культурны сезон.

**Врррр... BKD403K!**

### КУДЫ ТЫ ПАЕХАЎ?

Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству ў Беластоку свіснулі службовага паланеза. З'явіўся такім чынам адказ на артыкул Яна Максімюка "Хто павядзе паланеза?" /"Ніва", н-р 25, 1992/. Магчыма, што аўтар не такога адказу чакаў, але ж паланеза нехта павёў. Няма сумнення. Прыватызацыя ў Рэчыпаспалітай набывае размах.

/ам/

# НАЗЫВАЮЦЬ ІХ „БІЗНЕСАМІ”

Бульба ў гэтым годзе абрадзіла. Мая мама кажа, што заўсёды так было - як ураджай, то ва ўсіх, добрая зямля, ці кепская. А як няма ўраджаю, то ва ўсіх бульба нікчэмная.

Капанне бульбы пачалося ў гэтым годзе неяк у пачатку верасня. Незадоўга пасля гэтага гаспадары пачалі яе прадаваць. Спачатку бралі на фуру ці прычэпу тону-паўтары і вазілі ў гарады /Бельск, Гайнаўка, Беласток/. Каб дастаць лепшую цану прадавалі бульбу на базарах або проста пад блёкам. У Беластоку, казалі ў маёй вёсцы, можна было спачатку прадаць нават па 180 тысяч злотых за мэтр /100 кілаграмаў/. З часам аднак цана ўпала - гарадскія гаспадыні бралі па 140-150 тысяч. Хто своечасова абярнуў пару разоў паміж вёскай і Беластокам, зрабіў добры інтарэс.

Гэтым часам, калі капанне пачало набліжацца да канца, заварушыліся і прыватныя прадпрымальнікі. Пачалі у гаспадароў заказваць бульбу і раздаваць мяшкі - у мяшок сыпаць па 52 кілаграмы, два мяшкі: мэтр. Ад аднаго такога "бізнеса" ўзяў мяшкі і мой тата, 80 штук, якраз на чатыры тоны. Прадпрымальнік гэты пасылаў бульбу на Шлёнск. Там, кажуць, ядуць толькі "жоўты" гатунак. Татава ж бульба падыходзіла. Дамовіліся на 120 тысяч за мэтр /гээсы ў той час плацілі 110/.

Скончылася капанне. Тата нарыхтаваў бульбу, 80 мяшкоў, як след, па 52 кілаграмы кожны. Ну і чакаем мы на транспарт. Чакаем адзін тыдзень, чакаем і другі. А тут ужо і кастрычнік пачаўся, прымаразкі бяруцца. Тата не вытрымаў і схадзіў да тэлефона. "Слухай, - кажа тата, - бульба можа ў мяне ляжаць і да Калядаў, толькі заплаці мне заўтра, як дамовіліся". "Ну, не жартуй,- кажа той, - не будзем так ставіць справу". Як не будзем, то не будзем.

Загрузілі мы з татам гэтыя чатыры тоны на прычэпу і давай у чыжоўскі гээс. А там, чарга, што "дай ты спокуй". У гээсе плацяць па 110 тысяч за мэтр - бульбу шлюць на Усход. Вось, бачу, ад'язджае поўны грузавік на чыгунку. Праз нейкую гадзіну вяртаецца, але не пусты. На ім, кажуць, ужо 17 тон "бізнесовай" бульбы, што мела быць па 115. Па дарозе, няйначай, нейкі гаспадар мусіў перапыніць грузавік і ўваліў туды сваю бульбу, не дачакаўшыся свайго "бізнеса". Ну і парадачкі, праклінаюць гаспадары ў чарзе, асабліва іх жонкі. "Ты калі думаў, - чую, - што камуна ў Саюзе не ўтрымаецца?" "А вазьмі ты і ўтрымай, калі бульбы для народу бракуе".

Чарга не паменшваецца - чакае ў ёй блізка 70 тон гээсаўскіх і "бізнесовых" заказаў. "Давайце войта сюды, чаго ён там сядзіць у гміне!" Але войта няма ў гміне. Кіраўніцтва чыжоўскага гээсу прымае ўрэшце сур'ёзныя рашэнні: "Транспарт сёння не пераробіць, давайце на склад". Гаспадары раз-два разгрузілі сваю бульбу, узялі распіскі, грошы праз два тыдні.

Што б ні сказаць пра чыжоўскі гээс, але ў гэтым годзе вызваліў ён ад болю галавы шмат гаспадароў - узяў ад іх і свае заказы, і тыя "бізнесовыя", што мелі быць па 115-120 за мэтр. Калі хто тут пакрыўджаны, то напэўна гарадскія гаспадыні, якія бралі бульбу па 140, ці па 180 тысяч. Плююць сабе ў бараду, няйначай.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# САБАКА ЗБАРАНЕЎ?!

Геаграфічнае асяроддзе мае вялікі ўплыў на арганізмы. Той жа самы від у нас і на акіянскіх астравах адрозніваецца. Аднак жа птушка не ператварылася ў ката. Птушкай асталася. З гэтага магчыма зрабіць вывад, што відатворчы ўплыў геаграфічнага асяроддзя мае абмежаванае значэнне, а прычына відавой дыферэнцыяцыі арганізма зусім іншая.

А вось акдэмік Л. вырашыў перарабіць прыроду. Паставіў ён гіпотэзу, што відаўтварэнні раслін і жывёл залежаць толькі ад асяроддзя быту. Са спасылкаю на марксізм, адкінуў ён тэорыю аб прыродзе генаў, а генетыку Вайсмана-Моргана назваў рэакцыйнай.

З такім дакладам на гэтую тэму прыехаў у Бельск-Падляшскі лектар Н. з Беластока. Сабраў ён павятовых чыноўнікаў ды пачаў выясняць "генетыку" акадэміка Л. Паводле яго, гены ў відаўтварэнні не маюць ніякага значэння, а ўсё залежыць ад экалогіі, асяроддзя і геаграфічнага месцазнаходжання. Падбудаваў ён усё цытатамі з М., стагадовай даўнасці. Усё зрабіў так, як акадэмік Л. у жніўні 1948 г. на сесіі Акадэміі сельскагаспадарчых навук.

Даклад скончыўся і можна было ставіць пытанні. Ахвотных не было, усе маўчалі. Матэрыял быў вельмі трудны і мала зразумелы. Тады перайшлі да дыскусіі.

Я папрасіў слова. Спачатку доўга гаварыў аб розных геаграфічных асяроддзях. Хацеў ужо скончыць, калі лектар папрасіў мяне даць прыклад быту і відаўтварэння, які, як спадзяваўся, меў пацвердзіць "тэорыю" Л.

Я выканаў ахвотна яго жаданне і падаў такі прыклад:

- Калі ў чарадзе авечак памясціць на доўгі час сабаку, што тады здарыцца? Га, пытаюся вас усіх?.. Што, што? Няма адказу? Тады дазвольце мне выясніць. Гэта будзе згодна з гіпотэзай Л.

- Ну, ну гаварыце, што? - зашумеў зал.

- Што? Адказваю - сабака ЗБАРАНЕЕ...

Зала загрымела смехам. Рогат быў такі вялікі, што сам старшыня Прэзідыума Павятовай рады Ф. прыбег з першага паверха на другі. Доўгі час ніхто не мог супакоіць слухачоў...

Так завяршыўся даклад, што не пайшоў у лад. Было гэта вельмі даўно. Я сам ужо забыў пра гэтае здарэнне, але Барыс Манаховіч з Аўгустова прыгадаў мне яго. Вось я і апісаў.

**БАРЫСЛАЎ РУДКОЎСКІ**

## З ВАРШАЎСКАЙ ХРОНІКІ

24 верасня 1992 г. у клубе БГКТ ў Варшаве адбылося спатканне з паслом Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімірам Сянько. Спадар Сянько пазнаёміў прысутных з замежнай і ўнутранай палітыкай Рэспублікі Беларусь, яе эканомікай, сувязямі з Польшчай. Паінфармаваў таксама аб зацікаўленні ўрада Рэспублікі беларускай меншасцю ў Польшчы.

* * *

8 кастрычніка 1992 года Юрка Туронак правёў у клубе БГКТ ў Варшаве гутарку на тэму выдадзенай ім кніжкі "Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі". Праца Ю. Туронка і інфармацыя пра яе выклікалі зацікаўленне. На просьбу прысутных Аўтар ахвотна падпісваў набытыя імі экземпляры кніжкі.

**Я. Ж.**

### На спартыўнай ніве

Закончыліся сёлетнія міжгмінныя розыгрышы па футболу ў раёне Бельска-Падляшскага. Пераможцам стаў ЛЗС з Кнарыдаў. Другое і трэцяе месцы занялі ЛЗС з Плёсак і ЛЗС з Пасынкаў. За імі на чарговых месцах знайшліся: ЛЗС з Рyткі, ЛЗС з Мня і ЛЗС з Аўгустова.

Быў зроблены перападлік усіх голаў. Атрымалася, што падчас розыгрышаў у бягучым годзе спартсмены забілі ў вароты ажно 204 голы. Найбольш падчас футбольнага матча паміж камандамі з Руткі і Аўгустова - 10:1.

**ЯСЕНЬ**

# ПАПРЫГАЖЭЎ ГАЙНАЎСКІ ДОМ КУЛЬТУРЫ

На капітальны рамонт Гайнаўскі дом культуры чакаў здаўна. Дачакаўся яго ўлетку гэтага года. У канцы першага тыдня кастрычніка рамонтныя працы ўжо паволі заканчваліся. Праўда, яны мелі закончыцца яшчэ ў верасні, але, як кажа дырэктар ГДК інж. Мікалай Бушко, падчас рамонту паявілася неабходнасць выканаць некаторыя, раней не планаваныя (хутчэй — не прадбачаныя) працы. Па той жа прычыне, — сказаў у дадатак бурмістр Гайнаўкі Мечыслаў Гмітэр, — запланаваных у бюджэце горада 670 мільёнаў злотых мабыць не хопіць, каб пакрыць усе кошты рамонту. Будзе мітусня з раднымі.

Разам з дырэктарам ГДК, бурмістрам і адказным за будаўнічыя справы працаўніком гарадской управы Уладзімірам Валкавыцкім аглядаю рамантаваныя памяшканні. Надта змяніўся выгляд глядзельнай залы (340 месцаў), зразумела — на лепшае. Яна пасвятлела, стала больш утульнай. Зменена ў ёй электраўстаноўку, якая функцыянiравала без больших рамонтаў амаль сорак гадоў. Дайшло ўжо нават да таго, што аднойчы, падчас спектакля быў параджаны электратокам адзін з выканаўцаў. Публіка нават не ведала аб жахлівасці гэтай сітуацыі. У зале змянілася таксама кінатэхнічная ўстаноўка. На жаль, кінасеансаў у гэтым годзе не будзе, бо няма яшчэ некаторай апаратуры і грошай, каб яе купіць і ўстанавіць. — Праўдападобна ў наступным годзе ўдасца нам вырашыць гэтую справу, — абяцае М. Бушко. — Рамонт адкрыў нам магчымасць пачаць старанні ў гэтым напрамку.

У час рамонту змянілі пакрыццё даху будынка і ўпарадкавалі вадасцёкавую сістэму. Створана адначасова магчымасць выкарыстаць гарышча, якое дагэтуль пуставала.

Заглядаю і ў туалет, які раней выклікаў надта непрыемнае ўражанне на кожным, хто сюды ўваходзіў. Хаця працы тут яшчэ працягваюцца, то ўжо можна сказаць, што і гэтая частка ГДК не будзе рэзаць вока карыстальніку. Дырэктар ГДК смяецца: — Больш паганага туалета, як у нас, дагэтуль не было ў цэлай Гайнаўцы!

Генеральным выканаўцам рамонту ГДК з'яўляецца Бельска- падляшскае будаўнічае прадпрыемства. Электраўстаноўку ў цэлым будынку памяняла прыватная фірма Пятра Баўтрамюка з Гайнаўкі.

**ПЁТР БАЙКО**

# ЯШЧЭ ПРА БІБЛІЯТЭКУ Ў БЕЛЬСКУ

Артыкул „У бельскай Гарадской бібліятэцы” („Ніва” ад 11 кастрычніка г.г.) выклікаў немалую дыскусію ў некаторых кругах чытачоў нашага тыднёвіка. Пісаў яго я ахоплены той рацыянальнай, здаецца, думкай, каб бібліятэка была адным з ачагаў поўнай духоўнасці, ідэі захавання адметнасці Беластоцкага краю, у якім беларуская культура не можа апынуцца на перыферыйнай пазіцыі, ды ўрэшце — каб не жылі мы ў сваёй Малой Айчыне ў якасці чужых.

Паводле слоў дырэктара Веслава Цеслі, Гарадская бібліятэка ў Бельску-Падляшскім ёсць і будзе адкрыта на прапановы чытачоў ды розных асяроддзяў, на ўсе пошукі і амбітныя ідэі, на новыя формы дзеяння. У цэнтры ўвагі знаходзіцца справа захоўвання, тварэння і замацоўвання вартасцяў мясцовай супольнасці. У пазычальні ёсць паліца з рэгіянальнымі кніжнымі выданнямі, а неўзабаве ў чытальні выдзелена будзе асобнае месца для шырокай рэкамендацыі рэгіянальнай прэсы — з удзелам беларускіх і праваслаўных газет і часопісаў.

Галоўнымі бар'ерамі, якія пры значных намаганнях і кампетэнцыі бібліятэкараў можна пераадолець, з'яўляюцца сціпласць фінансавых сродкаў і дыктат камерцыйнага разліку ў працы кнігарняў (большасць стандартных кнігарняў адмовілася шукаць добрыя кнігі і абмежавалася да продажу папулярных выданняў — любоўных і дэтэктыўных раманаў ці альбомаў).

Дырэктар бельскай Гарадской бібліятэкі разлічвае на ініцыятыўнасць беларускага асяроддзя, на кантакт з Літаб'яднаннем „Белавежа”, паасобнымі аўтарамі і рэдакцыямі. Для нас гэта шанц папулярызацыі беларускай прэсы і мастацкай літаратуры. Ёсць таксама і запрашэнне, праз пасрэдніцтва „Нівы”, да жыхароў Бельска часцей наведваць бібліятэку і між іншым пазычаць кнігі з беларускага фонду.

У новых рэаліях вялікіх цывілізацыйных, культурных і грамадскіх перамен усім нам трэба шмат чаму вучыцца. Першымі будуць энтузіясты і думаю, што менавіта яны стануць тым ядром, якое зрушыць справу.

**ЮРКА БАЕНА**

# ПАПРАЎКА

У маім апошнім артыкуле „Наша блізарукасць” („Ніва” н-р 41) здарылася памылка ў адным сказе. Надрукавана: *„З Дубіч вывезеных было ажно 18 сем'яў”*, а павінна быць: **„З Дубіч мела быць вывезеных ажно 18 сем'яў”.** Толькі вайна перашкодзіла гэтаму плану, бо мелі вывозіць іх у панядзелак — 23 чэрвеня 1941 года. Такая была праўда!

Не ведаю, хто памыліўся, але калі я, дык сардэчна перапрашаю „Ніву” і яе чытачоў.

З павагай

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**



## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

**Частка XVI**

Амаль усе мае размоўцы лічаць, што сучаснае палітычнае жыццё ні ў якім выпадку не ёсць нармальным і маральным. Праўда, ніводзін з маіх сялянскіх размоўцаў не ўжывае ў адносінах да палітыкаў ці палітыкі слова „амаральны", бо такі тэрмін не змяшчаецца ў іх слоўным абыходзе. Затое вельмі часта карыстаюцца яны словамі шорсткімі, а нават вульгарнымі. Большасць з іх сцвярджае, што Сейм з'яўляецца прыкладам пустой балбатні, сварак і авантур, якія не маюць нічога супольнага з інтарэсам грамадскасці і краіны. Вельмі ахвотна сяляне выказваюцца на тэму тэлевізійных перадач і передач па радыё, даказваючы, што паявіліся ў іх нікому непатрэбныя настрої, накіраваныя не толькі супраць савецкай сістэмы але і супраць таких усходніх народаў як беларусы, рускія, украінцы.

Сямідзесяцігадовы селянін абураецца: „Як жэ гэто можэ так быці. Як толькі паціснеш гузічок у тэлевізары або ў радзіві, то зараз столь плыве нінавісць? Сын мой кажэ, што тое самэ пішут у газэтах. Гэто то я ні магу сказаць, бо іх ні чытаю. Калісь, бывало, то было міло слухаці або глядзець бо ўсёй час гаварылі аб дружбі, аб гэтай спулпрацы і ездзілі да сябе з добрым словом. А цяпер, Божэ мой мілы, або спекулянты прут з краю да краю або тые, ну як іх там, ну сам знаеш, мафії, чы чорт іх знае, як іх называют. Ну але гэто тое смеце, каторэ е ў усіх панствах. Зрэштаю тые спекулянты то і дабро робят. Прывязут табе пад хату таннага тавару і ўсе. Я і сам тое-сёе купіў па вельмі нізкай цане. То іх за надто ужэ і ні трэбо ляяці. Але ты паглядзі на паліцікоў. Гэто страшно, што робіцца. Ужэ пра праступлені немцаў то ніхто ні дзяўкне, як бы тое, што немцы рабілі то ужэ і трэбо забыці, бо што ж яны былі вінаваты? Былі салдатамі, а Гітлер прыказаў ім кепско рабіці, ну то рабілі. Затое ўсходнія суседзі. О, гэты то страшны мардэрцы, каторым ніяк ні трэбо даравяці. Божэ мой, колькі ж гэто махают кулакамі, колькі праклінают, колькі молящца. Вядомо, што Сталін быў душагуб. Калі забіваў сваіх родных людзей то напэўно забіваў і палякаў. Ї за гэто то ніхто яго ні пахваліт, але нашто ачарняць народы? Ну а кроме гэтого то і палякі добрэ выраблялі, хоць бы на Беларусі, а наваті тут, у нас пасля вайны, ні адзін ні вінаваты ў нічым беларус налажыў галавою. А якось нідзе ні чуць, каб маліліся, каб ставілі крыжы, каб крычалі і махалі кулакамі ў бок палякаў. Бо і нашто? Жыцця забітым ужэ ні вернеш, а нінавісці ў сэрцю маладых пасееш. Вядомо аб тым, што аб праступленях трэбо сказаць але ж ні можно дзень і ноч бубніць аб гэтом, бо то даст вельмі кепскі вынікі. То ж маладые так выхаваны зноў будут хватаць за бронь і зноў сілаю будут даходзіць сваго. Ты чалавек учоны, то пайдзі там да іх і ўсё гэто вытлумач. Ї скажы ім, што даволі ўжэ гэтай нінавісці, што яна нас давядзе да новае бяды і гора. А нам жэ ж трэбо жыці ў згодзі".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРАВАКАТАРЫ

Беларускі патрыятызм у сучасны момант мае ў сваёй пераважнасці рысы правакацыі. Гэта асабліва кідаецца ў вочы, калі давядзецца пазнаёміцца з сям'ёю такога патрыёта, у якой беларускасцю нават і не папахвае. Запамятаўся адказ аднаго беластоцкага проста супер-беларуса, з якім пагаварылася мне дакладна так:

- Вашы дзеці хоць разумеюць па-беларуску? - запытаў я з іронінкай.

- А халера іх ведае!? - адказаў той на поўным сур'ёзе гора-збаўца Беларусі ў беларусе.

Не запярэчу самому сабе, калі скажу, што такіх людзей я разумею і ў мяне няма да іх прэтэнзіяў. Яны ёсць басота або вылупіліся з яе паваенным часам і таму ўсенькую сваю актыўнасць накіроўваюць, так сказаць, на жывот, а не на духоўнасць. Галодны і халодны не бывае патрыётам, бо яму нямаш за што любіць бацькаўшчыну. Здараецца, што перастае ён быць і наогул чалавекам; са страшнай адназначнасцю паказала тое практыка канцэнтрацыйных лагераў, у дасканаласці якіх спаборнічалі паміж сабою камуністы з фашыстамі.

Патрыятычнасць сцісла вяжацца з маральнасцю як падставай культурнасці асобы. Уся бяда культуры, аднак жа, у тым, што яе нельга ўзяць у руку і з'есці. З'яўляецца яна **неабавязковай** праявай дзеяння ў фізічным існаванні чалавечай адзінкі. Культура - гэта не хлеб, ад яе браку ніхто не памёр, кажучы агульным параўнаннем.

Спомненае правакатарства трэба разумець не даслоўна. Ягоная немаральнасць цалкам вынікае з хісткасці жыццёвай пазіцыі дадзенага асобеня. Ён ужо снедае, абедае і вячэрае, і таму часамі нешта прачнатае ды задумаецца. Так нараджаецца беларус /дадам: як і кожная іншая нацыя/. Але, разам з тым, беларуская дэкларацыя пагражае... выпадам польскага /расейскага/ воўка з лесу, які панясе цяжка прыдбанае табою свінча!

Гісторыя народаў свету даволі даводзіць да ведама нам, што сама прырода асіміляцыі толькі на выгляд носіць на сабе культурнамоўную афарбоўку. Удаецца яна да крыві касцей там, дзе ў сваім фінальным выніку паляншае быт дэнацыяналізаваных. Польскі Шлёнск робіцца нямецкім амаль з дня ў дзень не ад захаплення шпрэхэн-моваю, але сілаю памяці дастатку за немцамі, адступіўшымі адсюль у сорак пятым, а цяпер стаўшымі самымі багатымі ў Еўропе; унукі бела-арловых паўстанцаў мараць пра статус фальскдойчаў. Гэтаксама, як патомкі бельска-гайнаўскіх бальшавікоў, што стралялі ў варшаўскіх паноў і заўдавалі саветам на вываз у Сібір усякіх паланізатараў, сёння мацнейшыя з іх палякі, чым самі палякі.

Няма ў гэтым аніякай метафізікі, зрэшты, як відаць. Названы мною **правакатарскі патрыятызм** - падбухторніцкі - гэта патрыятызм **слабых**, бедных. Ён у іх патаемны, быццам сексуальнае жыццё ў паненкі: хочацца і боязна. Быць беларусам, вядома, не соладка ні тут, ні ў Рэспубліцы Беларусь пакуль што. Гэтае пачуццё патрабуе ад чалавека немалое інтэлігентнасці і прымату сэрца над страўнікам з кішкамі. Таму яно элітарнае, што і павінна тлумачыць факт заядлай **самапаланізацыі** нашай чэрні, этнічнага жыватоўя. Беларусаў у нас радыкальна паменшае ў адпаведнасці з рэдукцыяй сялянства да дэмаграфічнай яго неістотнасці. У сваёй масе апынуўшыся ў мястэчкова-гарадской дыяспары, яны найбольш захаваюць праваслаўнасць, і толькі ў выпадку яшчэ і адукаванасці, начытанасці, - і беларускасць як вышэйшую, панаднародную, ступень свядомасці індывідуума. Вобразна кажучы, адбудзецца **эфект спружыны**: паланізацыйны ціск затрымаецца на парозе нацыянальнай культурнасці.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## РАДЫЁ І НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МЕНШАСЦІ

14 кастрычніка г.г. у будынку парламента Рэчыпаспалітай адбылося пасяджэнне Камісіі па справах нацыянальных меншасцяў на тэму: „Сродкі масавай інфармацыі пра нацыянальныя меншасці і для нацыянальных меншасцяў". Камісія запрасіла на свой сход прадстаўнікоў прэсы, якая выдаецца меншасцямі і дазволіла ім узяць голас у дыскусіі. Старшыня камісіі Ян Пянткоўскі (ЗХН) сказаў на пачатку, што дзяржава мае абавязак даць нацыянальным меншасцям час для перадач у радыё і тэлебачанні, бо да гэтага забавязваюць яе міжнародныя пагадненні, якія яна падпісала. Мусіць даць і таму, прадаўжаў старшыня, каб стварыць атмасферу талерантнасці ў адносінах да меншасцяў.

Паводле слоў Яна Пянткоўскага, камісія звярталася ўжо да кіраўніцтва Радыёкамітэта ў справе доступу нацыянальных меншасцяў да тэлебачання, але пакуль што не атрымала ніякага адказу. На пасяджэнне камісіі не прыехаў старшыня Радыёкамітэта Януш Заорскі і таму ў справе тэлебачання нават не варта было, як сказалі паслы, гаварыць. Затым гутарка абмежавалася да спраў выкарыстання радыёперадач у прапагандаванні праблемаў нацыянальных меншасцяў. Дырэктар па справах праграмы Польскага радыё сказаў на пачатку, што няма вялікіх шанцаў, каб рабіць перадачы пра нацыянальныя меншасці ў цэнтральных праграмах. Можна гэта зрабіць толькі тады, калі б штосьці з пастаянных радыёперадачаў ліквідаваць, але тады гэта выклікае пратэсты розных сацыяльных меншасцяў. Пасол Вальдэмар Пальчынскі (КПН) запрапанаваў аднак, каб стварыць меншасцям магчымасці трансляваць свае перадачы ў агульнапольскіх праграмах, бо шмат людзей жыве ў дыяспары і не маюць яны ніякіх магчымасцяў паслухаць сваю родную мову. Пасол В. Пальчынскі сказаў таксама, што бельскія ўкраінцы вельмі дрэнна чуюць сваю перадачу, а гэта з прычыны невялікай моцы беластоцкай радыёстанцыі.

Дырэктар Беластоцкага радыёвяшчання Ежы Мушынскі паінфармаваў, што яго фірма робіць шмат перадач аб нацыянальных меншасцях і апрача таго беларусы, літоўцы і ўкраінцы маюць свой час на антэне. У нядзелю раніцай, ад 7 да 9, прадаўжаў спадар Мушынскі, амаль няма перадач на польскай мове. Праблемай Беластоцкага радыё, сказаў дырэктар, ёсць неабходнасць цэнзуры, асабліва тых перадач, якія датычаць беларуска-ўкраінскіх адносін. (Пакуль ніхто з беларускіх журналістаў не займаўся „ўкраінцамі", тады можам сабе ўявіць, як без гэтай цэнзуры выглядалі б перадачы, якія ў нядзелю вядзе Юры Місяюк. А з другога боку шкада, што людзі, якія тры гады таму назад рашыліся быць украінцамі, не могуць шчыра выказацца).

Пасля выступалі кіраўнікі іншых радыёстанцый, у якіх рыхтуюцца перадачы для нацыянальных меншасцяў. У Ольштыне, Шчэціне, Кашаліне ніякіх праблемаў яны не маюць, апрача таго, што няма сярод меншасцяў зашмат ахвотных да супрацоўніцтва. Дырэктар радыёстанцыі ў Кашаліне сказаў, што перадачы на ўкраінскай мове ў большасці робяць самі палякі.

Затым выказваліся паслы — члены камісіі. Амаль усе былі яны за гэтым, каб пра нацыянальныя меншасці больш гаварыць па радыё і тэлебачанні. Пасол Рышард Лявіцкі (СЛД) звярнуў увагу, што большасць перадач, якія робяцца прадстаўнікамі меншасцяў, напамінаюць этнаграфічны музей і найчасцей адлюстроўваюць унутраныя канфлікты сярод гэтых грамадстваў. Замала ў іх публіцыстыкі і культурных тэм на адпаведным узроўні.

Далей гаварылі запрошаныя прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў. Найчасцей паўтараўся матыў еўрапейскіх стандартаў і неабходнасці выконвання трактатаў, падпісаных дзяржавай.

Агульнае ўражанне ад гэтай сустрэчы такое — нацыянальныя меншасці хочуць, каб іх больш паказвалі, пра іх гаварылі і пісалі, самі гатовыя таксама ўключыцца ў гэты дыялог. З боку паслоў і ўраднікаў, адказных за сродкі масавай інфармацыі, ёсць поўная падтрымка для гэтай ідэі. Словам, усе аднае думкі і ўсе добра хочуць. Праўдападобна будзе толькі адна перашкода, каб рэалізаваць іх волю — недахоп фінансавых і тэхнічных сродкаў.

**М**

## А ШТО СА МНОЮ, АСКОЛКАМ МАРАЛЬНАГА МАНАЛІТУ?

У суботу 17 кастрычніка г.г. па першай праграме тэлебачання дэманстраваўся фільм „Emanuelle". Фільм гэты, калі разглядаць яго паводле сённяшніх эстэтычных катэгорый, з'яўляецца не інакш, як дакументам фільмовага эратызму 70-х гадоў.

Са здзіўленнем выслухаў я ў панядзелак па 3-цяй праграме радыё каментары парламентарыяў. *Я гэтага фільма не глядзеў, бо быў на рэкалекцыях,* — казаў адзін: *Такія фільмы — парнаграфія, не трэба іх увогуле паказваць, бо пагражаюць маральнаму маналіту грамадства,* — казаў іншы.

Вось той другі голас і знерваваў мяне. Гэй-гэй, падумалася мне, панове, тылько спакойне! Я не з'яўляюся часткай вашага маналіту. Люблю паглядзець сабе тое-сёе. Жывем жа ў дэмакратыі. Зразумейце і мяне.

**(ам)**

## „ЗБАЎ ГОСПАДЗІ БЕЛАРУСКІ КРАЙ..."

/працяг са стар. 1/

прэзідэнта АН РБ Л. Сушчэні, старшыні камісії Вярхоўнага Савета Беларусі па культуры Н. Гілевіча ды Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, мітрапаліта Філарэта было прадстаўлена некалькі дакладаў, з якіх асаблівую цікавасць выклікалі: "Тысячагадовы шлях Праваслаўя на беларускай зямлі" а. Сергія Гардуна, "Пытанне аб кананізацыі архіепіскапа Георгія Каніскага" магілёўскага епіскапа Максіма ды "Праваслаўная Царква на Беласточчыне" Міколы Гайдука /гэты апошні даклад адклікнуўся шырокім водгаласам сярод прысутных/.

У другой частцы канферэнцыі яе ўдзельнікі працавалі ў пяці секцыях, якія займаліся пытаннямі па багаслоўю і рэлігійнай думцы ў Беларусі, гісторыі Царквы, царкоўнай архітэктуры, мастацтве ды іншых праблемах. Абмежаваны час не дазволіў завяршыць поўнасцю працу секцыяў, але трывалым следам засталіся выдадзеныя раней тэзісы канферэнцыі.

Таго ж дня, вечарам, у Тэатры оперы і балета ў Менску прайшоў Урачысты Акт, дзе між іншым прагучалі словы прывітанняў ад запрошаных царкоўных іерархаў. Завяршыў вечар канцэрт, на якім можна было пачуць духоўныя спевы, пабачыць акцёраў увасобленых у постаці з беларускай гісторыі /св. Ефрасіння Полацкая, князь Ізяслаў, Францыск Скарына.../. На заканчэнне хор пад кіраўніцтвам Віктара Роўды /вядомага на Беласточчыне з выступленняў у Гайнаўцы/ выканаў беларускі рэлігійны гімн "Магутны Божа", а публіка, стоячы, слухала і дапамагала... І гэта, можна сказаць, быў першы духоўны момант юбілейных урачыстасцяў.

Назаўтра святкаванні пачалі набліжацца да Полацка...

Спачатку было Заслаўе. І пасвячэнне крыжа на "Замачку". Тут на высокім пагорку, дамінуючым у панараме Заслаўя, тысячу гадоў таму назад стаяў замак князёўны Рагнеды-Анастасіі, якая была першай вядомай хрысціянкай і манашкай у Беларусі. Тут яна выхоўвала свайго сына Ізяслава. У гонар



*Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, мітрапаліт Менскі і Гродзенскі Філарэт.* *Фота А. Адамчыка*

гэтага багалюбівага князя быў і названы горад... Памяць пра Рагнеду жыве тут у народзе да сёння, што і было засведчана памятным каменным крыжам. Пры яго пасвячэнні а. Рыгор Місяюк з Беластока ўспомніў, што ў пачатку 80-ых гадоў прыйшлося яму быць сведкам таго, як здымалі крыж з Праабражэнскай царквы ў Заслаўі. Цяпер на царкве ізноў высіцца Крыж Гасподні, ізноў тут дзейнічае прыход.

Пасля пасвячэння крыжа ўсе госці падаліся ў царкву, ля якой быў адслужаны ўрачысты малебен.

А наперадзе быў Полацк. Аўтобусы імчалі на поўнач Беларусі. Калі паказаліся блакітныя азёры, было вядома, што мы на Полаччыне. Асаблівае адчуванне блізкасці гісторыі нарастала з кожным кіламетрам. Полацк прывітаў нас прыгожай панарамай з відам на Сафійскі сабор і Багаяўленскую царкву... А ў нізе плыла шырокая Дзвіна.

Полацк дужа падрыхтоўваўся да ўрачыстасці. Усюды віднеліся вялікія плакаты з крыжым св. Ефрасінні. На галоўным пляцы ўлады горада і жыхары віталі архіпастыраў (у гэтым было нешта сімвалічнае - на тым жа пляцы некалькі дзесяткаў гадоў таму назад высіўся Мікалаеўскі сабор, пасля разбураны. Сабор падзяліў лёс многіх храмаў Полацка). Сёння гэты цэнтр Праваслаўя ў Беларусі адраджаецца. Адрадзілася Полацкая епархія, якой кіруе епіскап Глеб. Жывы і духоўны цэнтр Полаччыны - Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр.



*Крыжа-Уздзвіжанскі храм Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра ў Полацку.*

Тут, у час урачыстасцяў 1000-годдзя, напярэдадні свята Уздзвіжання Крыжа Гасподняга архірэямі было служанае Усяночнае дбанне. Асабліва кранальным момантам таго багаслужэння быў архірэйскі чын Уздзвіжання Крыжа. Крыж, які прадставіўся для пакланення народу, меў форму традыцыйнага крыжа св. Ефрасінні.

Дзень свята Уздзвіжання пачаўся з трапез Гасподніх - Святых Літургій у манастыры ды Багаяўленскай царкве. Галоўная Святая Літургія была служана ў Сафійскім саборы. Гэтаму храму, з гісторыі якога можна прачытаць усю гісторыю Полацка, яшчэ не вернута праўдзівае прызначэнне - быць Домам Божым, тут яшчэ памяшчаецца канцэртная зала. Дарэчы, за Сафійскі сабор разгарнулі палітычную гульню неуніяцкія і праватыканскія кругі, што выразна відаць на старонках некаторых выданняў, прыкладна, у дагэтуль заўсёды саліднай "Літаратуры і мастацтве". Таксама і ў час Літургіі ў Сафійскім саборы дэманстраваліся правакацыйныя лозунгі, прыкладна такога зместу: " Аддайце Сафію прававерным уладальнікам".

Літургію ў Сафійскім саборы служылі ўсе запрошаныя архірэі, а спяваў хор Віктара Роўды. Пасля завяршэння Святой Літургіі з Сафіі вырушыў хрэсны ход у Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр. Гэтае шэсце па вуліцах Полацка, як сказаў пазней архіепіскап Сава, можна параўнаць да ўсяго гістарычнага шляху Праваслаўнай царквы ў Беларусі.

Дарога вяла з храма Прамудрасці Божай у храм Спаса Збавіцеля. Там спачываюць нятленныя астанкі апякункі Беларусі прап. Ефрасінні. Яе святыя мошчы былі абнесены вакол храма і прадстаўлены для пакланення народу.

На заканчэнне, ў кароткіх словах да вернікаў звярталіся архірэі; гаварыў таксама, прыбыўшы сюды, прэзідэнт Беларусі Станіслаў Шушкевіч, што асабліва падкрэсліла ранг і важнасць святкаванняў.

І так Беларусь увайшла ў другое тысячагоддзе свайго хрысціянскага шляху.

**МІКОЛА САХАРЭВІЧ**
Фота аўтара



*Перад пасвячэннем крыжа на „Замачку" ў Заслаўі.*

## САБОРА НЕ БУДЗЕ

**У днях 18-23 кастрычніка г.г. у Варшаве павінен быў адбыцца гістарычны І Памесны сабор Праваслаўнай царквы ў Польшчы. Сабора, на жаль, не будзе. Яго Блажэнства мітрапаліт Васілій - галава Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы не благаславіў гэтае мерапрыемства. На практыцы ўся падрыхтоўка да Памеснага сабора была ўжо закончана. Паасобныя камісіі падвялі вынікі сваёй працы, а справаздачы імі падрыхтаваныя мелі абмяркоўвацца Саборам. Дэлегаты прапанавалі ставіць на разгляд наступныя пытанні:**

- каляндар царкоўных святаў,
- увядзенне нацыянальных моў у набажэнствы,
- патрабаванне вярнуць маёнтак, які да II сусветнай вайны належаў Царкве,
- справа навучання рэлігіі і тэалагічнай адукацыі,
- прыняццё новага статута Праваслаўнай царквы ў Польшчы,
- харытатыўная дзейнасць Царквы,
- павышэнне значэння манаскіх цэнтраў,
- выдавецкая дзейнасць,
- роля Брацтва праваслаўнай моладзі,
- развіццё розных форм рэлігійнай актыўнасці,
- ацэнка палітыкі дзяржавы ў адносінах да Праваслаўнай царквы ў міжваенны перыяд.

**Сабор не адбудзецца, але нявырашаныя праблемы засталіся. У паўсюдным перакананні толькі саборны сход духоўных і свецкіх асоб можа вырашыць большасць гэтых пытанняў.**

**С. Н.**

## ПЕРАВОДЗЯЦЬ НА УНІЮ?

Парафіяльнае свята ў Гайнаўцы /Нечаянная радасць/ прыцягнула шмат народу ў гэтым годзе. Святкаванне супала з 50-годдзем парафіі - Сабор Св. Тройцы быў біткам набіты ды не менш народу стаяла яшчэ звонку царквы.

Прапіхацца ў царкву з дачкою на руках я пабаяўся, каб не задушылі малой. Але тата мой неяк прапхнуўся. Пазней мне гаварыў: "Ведаеш, раздавалі медалі заслужаным для парафіі. Стаю я і не магу зразумець, што такое адбываецца. Здавалася б, што ўсе тут праваслаўныя сабраліся, а той чытае па-польску. Стала мне неяк брыдка, што хацеў быў ужо выходзіць, але хтось, хто стаяў таксама не вытрымаў - падыйшоў і сказаў ім. Тады сталі па-руску. Ужо нават у царкве ідзе да немажлівага. Перавядуць нас на унію, кажу табе".

Хацеў я нешта тлумачыць тату, але ён чалавек катэгарычны, гарадскіх кампрамісаў /"праваслаўны паляк"/ не прызнае. Альбо ты беларус і трымаешся свайго, альбо...

У 41-шым нумары "Нівы" /за гэты год/ ёсць адзін такі артыкул - "З'езд моладзі Беластоцка-гданьскай епархіі". Чытаем у ім:

*У дыскусіі, у якой прымалі ўдзел моладзь і святары, закраналіся наступныя праблемы: /.../ - справа мовы ў час набажэнстваў.*

*Частка ўдзельнікаў З'езда выказвалася за ўвядзеннем польскай мовы, зразумелай для большасці вернікаў. Здаецца, што гэтае пытанне незадоўга стане адным з важнейшых у нашай царкве.*

Здаецца, што гэтае пытанне ўжо вырашаецца на практыцы ды ўзнікае тут новае пытанне - ці будуць вернікі нашу Царкву без "нашай" мовы надалей лічыць нашай?

/рк/

## У ШКОЛЕ Ў СЕМЯНОЎЦЫ

У Падставовую школу ў Семяноўцы (Нараўчанская гміна) ходзіць 82 дзяцей. У прадшкольным аддзеле займаецца васемнаццаць дзетак. Усе яны з Семяноўкі, Тарнопаля, Людвінова, Смольніцы, Бабяй Гары, Пасекаў і Семенякоўшчыны.

Беларускай мовы навучаецца 59 дзяцей. У класах II—IV на ўрокі роднай мовы ходзяць усе вучні. Вядзе іх выпускніца Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта — Ліля Кардаш. Яна арганізавала, між іншым, аўтарскую сустрэчу з „белавежцам” — земляком — Янкам Целушэцкім і з гэтай нагоды падрыхтавала спецыяльную насценгазету.

Вучняў з адлеглых вёсак возяць на аўтобусе. Зараз пачалі акцыю „Шклянка гарачага чаю для кожнага вучня”. Штодзень вараць гарбату і робяць бутэрброды. У зімнія месяцы будуць варыць малочныя супы. З гэтай мэтай сёлета аддалі ў карыстанне прыгожую прасторную сталовую.

У семяноўскай школе мы бачылі вельмі прытульны пакойчык, у якім знаходзіцца бібліятэчка, а ў ёй даволі багата беларускіх кніжак. Ёсць тут зборы твораў некаторых беларускіх пісьменнікаў, энцыклапедыі, слоўнікі. Бібліятэку вядзе настаўніца польскай мовы Вацлава Суліма. У бібліятэцы можна пачытаць таксама некаторыя часопісы, у тым ліку „Ніву”.

Сёлета ў Семяноўцы многа папрацавалі, каб аднавіць школьны будынак, а ён тут двухпавярховы. Гэта была бадай што адна з важнейшых спраў, якую асабліва адзначыў у размове са мною дырэктар Уладзіслаў Кічка. У школе памалявалі падлогі і вельмі прыгожа аднавілі прыбіральні — тут зараз тэракота і глазура. А як прыгожа выглядае памаляваная школьная агароджа і паркавыя лавачкі!

Варта дадаць, што семяноўскія вучні маюць таксама ўласны фізкультурны зал. Хаця ён невялікі — плошча ўсяго 60 квадратных метраў — але ўсё ж ёсць. Зараз у халодныя дні заняткі адбываюцца ў цёплым памяшканні.

Кіраўніцтва школы і вучні плануюць дзве экскурсіі: у Варшаву і ў Беласток, між іншым у тэатры, а таксама зімні адпачынак (зімовішча) у Белавежы. Вясною зарганізуюць пару веласіпедных рэйдаў і бівак над Семяноўскім вадасховішчам каля вёскі Тарнопаль.

ЯСЕНЬ

## ПЕГАС БУШУЕ Ў БЕЛАВЕЖЫ

У кожным сапраўдным лесніку ёсць натуральная схільнасць да прыгожага слова, паэзіі, літаратуры наогул, — гэтак сцвярджае настаўніца польскай мовы ў Лясным тэхнікуме ў Белавежы, магістр Альжбета Ляпрус. І хіба не памыляецца. Праз вельмі кароткі час удалося ёй згуртаваць вакол сябе немалую групу вучняў, якія прабуюць сваіх сіл у паэзіі і прозе, а таксама праяўляюць выдатныя здольнасці ў мастацкім чытанні. Ужо з самага пачатку падапечныя А. Ляпрус праслаўляюцца на ўсяляких дэкламатарскіх конкурсах, так раённых як і ваяводскіх, а нават агульнапольскіх. Доказы прызнання за працу ў вылоўліванні талентаў збірае і сама апякунка. І хаця нярэдка прыходзіцца ёй даплачваць да „імпрэзы” з уласнай кішэні, то ўсё ж (а мо лепш — наперакор усяму) не дэмабілізуе сваіх сіл і самаахвярнасці. — Калі ўжо штосьці важнае пачалося рабіць, то трэба быць паслядоўным, — правільна заўважае яна. — Калі нехта з вучняў нават захоча змяніць прафесію, то напэўна не будзе гэта са стратай для школы ці ляснíцтва. Найважнейшае, што скарыстае той, хто падымае гэтае рашэнне. Гэта бы́дзе яго свядомы выбар жыццёвай дарогі. Адзін з нашых сёлетніх выпускнікоў паступіў у тэатральную школу ў Кракаве, другі — дарэчы, белавежац — у лялечную школу ў Беластоку. Усе мы цешымся...

Ад двух гадоў наладжваюцца літаратурныя конкурсы. Прымаюць у іх удзел усе вучні, якія твораць (некаторыя з іх гэтак разагналіся, што нават сачыненні пішуць вершам, чым уводзяць у збянтэжанасць самую віноўніцу гэткіх літаратурных пачынанняў; бо што ўрэшце ацэньваць — сачыненне ці твор?). Зразумела, што ёсць узнагароды, адзначэнні. У мінулым годзе найвышэй ацэнена паэтычную творчасць Губерта Штэкера, Дарыі Іганові́ч, Яраслава Наумюка і празаічную — Тамаша Януса, Яцка Маркоўскага і Эрвіна Лучая. У бягучым годзе зноў галоўнымі паэтамі школы прызнаны Г. Штэкер і Д. Іганові́ч, а таксама высока ацэнена творчасць Рафала Віткоўскага і Радаслава Куляшэвіча. У прозе на гэты раз найлепшым аказаўся Пшэмыслаў Баравік.

Д. Іганові́ч і Г. Штэкер заваёўваюць лаўры і па-за школай. На арганізаваным у 1991 г. беластоцкім аддзелам Літаратурнага таварыства імя Адама Міцкевіча „Конкурсе аднаго верша” Дарыя атрымала галоўную ўзнагароду за верш „Маё жыццё”, а Губерта сваёй узнагародай адзначыла публіка за верш „Ненавіджу мяне”.

З творчасцю маладых адэптаў ляснíцтва можа пазнаёміцца шырэйшы круг людзей. За кошт школы была выдадзена (зразумела, на польскай мове) „Анталогія творчасці вучняў Комплексу лясных школаў у Белавежы. Проза і паэзія”. Змешчана ў ёй сто дваццаць вершаў дванаццаці аўтараў і шэсць апавяданняў чатырох аўтараў. Частка тыражу (увесь — 200 экзэмпляраў) трапіла ў рукі вучняў тэхнікума, частка — у школьныя і публічныя бібліятэкі, пераважна ў Беластоцкім ваяводстве. Варта таксама ўспомніць, што конкурс прынёс пераможцам аўтарскія літаратурныя аркушы, выдадзеныя — крыху меншым тыражом — пры дапамозе школьнага камп'ютэрнага абсталявання і пры заангажаванні ў гэтую справу інфарматыка Анны Кульбацкай.

ПЁТР БАЙКО

## ГАЙНАЎКА НА ПЕРШЫМ АГУЛЬНАПОЛЬСКІМ

З 1 па 3 кастрычніка бягучага года ў горадзе Тыхы, Катавіцкага ваяводства, адбываўся Першы агульнапольскі турыстычны экалагічны злёт школьнай моладзі. Самай шматлікай на ім была група з Гайнаўскага ліцэя з беларускай мовай навучання. 1 клас „А” амаль у поўным складзе на чале з трыма апекунамі — Аляксандрам Лаўрыновічам, Барбарай Зін і аўтарам гэтых радкоў, — пасля амаль трынаццацігадзіннага падарожжа быў гасцінна сустрэты вечарам 30 верасня ў рабочым гатэлі ў Тыхах.

А наступнай раніцай, ужо а сёмай, удзельнікі злёту былі ў дарозе. Праграма, дарэчы, была вельмі напружанай, можна нават сказаць, надта напружанай. Часу на адпачынак амаль не было. Зранку пешыя паходы па маляўнічых ваколіцах Горнага Шлёнска, якія рэзка кантраставалі з жахліва-шэрымі гарадамі. Але і лясы, нягледзячы на іх прыгажосць, мелі папераджальныя таблічкі: „Грыбы і ягады збіраць забаронена з-за атручанасці”.

А пятай-шостай пачыналіся конкурсы: песні, экалагічна-гумарыстычнага апавядання і конкурс знаўцаў. У першых двух, нягледзячы на адчайныя намаганні, наш ліцэй апынуўся сярод апошніх. А вось у конкурсе знаўцаў, выйграўшы аўтамабільны прыёмнік, трэцяй была Барбара Амельянюк. А гэта вельмі добры вынік, улічваючы тое, што адбор для фінала быў строгі, а многія пытанні былі настолькі складанымі, што здавалася — знаходзішся на навуковай канферэнцыі.

Шкада, што на маршруце даводзілася часам амаль бегчы. Тут з боку арганізатараў былі пэўныя пралікі. Няхай бы школьнікі, сярод якіх, дарэчы, былі 11—12-гадовыя, прайшлі не па 12—20(!) кіламетраў, але б болей паглядзелі ў тых жа лясах ці, напрыклад, у старажытнай Пшчыне, дзе ёсць што паглядзець апроч замка пшчынскіх князёў. Ды й экалагічная тэма прысутнічала ў асноўным на курсах, паходы ж былі крыху іншага напрамку: у першы дзень напрамак быў касцельны, у другі — гістарычны. Экалагічным мусіў быць трэці дзень, але дождж зблытаў планы.

А ў цэлым злёт, які мог аказацца камяком (першым!) удаўся. За гэта дзякуй яго арганізатарам і, вядома ж, шматлікім спонсарам.

А што цяпер? Цяпер вучні 1 „А” з нецярплівасцю чакаюць наступнага, на якім спадзяюцца ўзяць ужо тры першыя месцы і ніяк не ніжэй. У перамежку, будзем спадзявацца, яны зробяць усё, каб на ўскраінах Белавежскай пушчы ніколі не з'явіліся таблічкі са шлёнскіх лясоў.

АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ

## СМАЧНЫЯ АБЕДЫ ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ...

... гатуюць у Падставовай школе ў Старым Ляўкове /Нараўчанская гміна/. Між іншым тут паспяхова арганізоўваюць харчаванне. У бягучым навучальным годзе суп рыхтуюць для 160 дзяцей, а поўны абед - для 32. Тут ёсць магчымасць, як вучням так і настаўнікам, падсілкавацца за невялікі кошт. Агародніну - між іншым, бульбу, моркву, буракі, капусту, цыбулю і фасолю - маюць з прышкольнага ўчастка. Пра вырошчванне клапоцяцца бацькі школьнікаў. Дапамагаюць ім вучні.

Кожны дзень смачныя абеды вараць Марыя Крышань і Ірына Харкевіч. Ядуць іх падчас доўгіх перапынкаў - пасля трох урокаў. Некаторыя вучні дачакацца не могуць, калі ўжо пачнуць выдаваць смачную ежу!

Харчаванне ў ляўкоўскай школе вядзецца ўжо адзінаццаты год, з тае пары, калі закончылася яе разбудова. Ініцыятарам быў дырэктар школы Валянцін Барташук. Ён і зараз клапоціцца, каб харчаванне не спынілася. Як яно важнае, не трэба нікога пераконваць.

У Ляўкове добра. А вось жа ў некаторых школах - хаця ёсць для гэтага ўсе ўмовы - забываюць нават пра вядзенне карыснай, як-бы там не было - акцыі "Шклянка гарачага малака". А зіма ж не за гарамі.

У мінулым навучальным годзе смачныя абеды гатавалі і ў школе ў Нарве. Ведаем пра гэта. Нават прабавалі. Цікава, як ёсць цяпер?

ЯСЕНЬ

## ПОЛЬСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ Ў БЕЛАРУСКІМ ЛІЦЭІ

20 кастрычніка ў Гайнаўскі беларускі ліцэй неспадзявана прыехала тэлебачанне з Варшавы. У вучняў такая незвычайная падзея выклікала эйфарыю. Інакш да гэтага візіту паставіліся настаўнікі. Некаторых камера проста паралізавала, без падрыхтоўкі не хацелі яны выстаўляць свае асобы на публічны агляд.

Аднак грамадскі інтарэс перамог асабістыя засцярогі і, у выніку гэтага, тэлебачанне „круціла” ліцэй звонку і знутры звыш 4 гадзіны. Журналісты ўзялі інтэрв'ю ў дырэктара Яўгена Сачко, рэдактараў школьнай газеткі і запісалі некалькі песень музычнага гурту.

Гайнаўскі ліцэй падобны на іншыя школы ў Польшчы. Адзінае, чым адрозніваецца ад іх, гэта тое, што навучаецца тут беларуская моладзь.

АК

## У РЫБАЛАХ АДРАКАЮЦЦА РОДНАГА

У Пачатковай школе ў Рыбалах вучні другога і трэцяга класаў аддалі настаўніцы беларускай мовы падручнікі і заявілі, што яны не хочуць вучыцца гэтага прадмета. У іх, маўляў, і так многа працы, а тут яшчэ дадатковыя заняткі, дадатковыя хатнія задачы.

На жаль, такое ў Рыбалах не першы раз. Пад канец мінулага года бацькі старэйшых вучняў былі ў куратары з просьбай, каб іхнія дзеці вызвалены ад беларускай мовы. Куратар прыпомніў дырэктару школы Яўгеніі Грыб, што беларуская мова гэта прадмет неабавязковы і калі бацькі не хочуць, каб дзеці яе вывучалі, дык не можна нікога да гэтага прымушаць.

У Пачатковай школе ў Рыбалах каля 140 вучняў. Трэцяя частка з іх палякі-католікі з мясцовага РСП - сельскагаспадарчага кааператыва, астатнія - праваслаўныя беларусы. Але беларускую мову вывучае цяпер усяго 20 дзяцей. Ды і тыя ахвотна перасталі б, толькі пані дырэктар не прымае ад іх заявак аб вызваленні ад гэтага прадмета, тлумачачы, што той хто пачаў навуку, павінен яе давесці да канца.

М. В.

## "СКАЎТ" ЗАПРАШАЕ ДЗЯЦЕЙ

7 лістапада г.г. у Беластоку ў "Лятучых талерках" /"Spodek C"/ па вул. святога Роха 14 а гадз. 11.00 пачнецца мерапрыемства для дзяцей з удзелам дзіцячага беларускага хору **"КРЫНІЧКА"** з Менска. У праграме імпрэзы прадбачваюцца конкурсы, гульні, дыскатэка і пачастунак.

Запрашаем усе дзеці прыняць удзел у забаве. Білеты можна купіць у Агенцтве школьнай турыстыкі "Скаўт" у Беластоку, вуліца Сянкевіча 3 або перад канцэртам у "Spodku C".

АШТ „Скаўт”

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 394*

ЯН ЧЫКВІН

## ДРУГОЕ ЧЫТАННЕ

### ПРАПАНОВА ІНТЭРПРЭТАЦЫІ АПОВЕСЦІ „САМАСЕЙ" С. ЯНОВІЧА

На пачатак пару слоў майго чытацка-прыватнага вызнання.

Калі ўлетку гэтага года паявілася ў Беластоку мінскае выданне аповесці "Самасей" Сакрата Яновіча і я папрасіў яго даць і мне экзэмпляр, то аўтар - не беручы грошай - усё-ткі не даў яе задарма. "Можа, хвароба, нешта напісаў бы..." - дабавіў ён, як бы заключаючы са мною змоўніцкую дамову.

Куды ж дзецца - я паабяцаў! Але адразу чытаць тэхнічна выдатна зробленую кніжку пабойваўся, адцягаў з дня на дзень, таму што раней прачытаная Яновічавая проза і асабліва яго апублікаваныя на польскай мове аповесці "Ściana" і той жа "Samosiej" /вядомыя мне яшчэ ў машынапісным варыянце/ тады не трапілі да майго светаўспрымання. Польская рэчаіснасць другой паловы 70-х і першай 80-х гадоў так бессаромна агольвала палітычна-грамадскія праблемы, так шпарка ішла дапераду, што апярэдзіла ўсю мастацкую літаратуру, у тым ліку і Яновічавыя спробы адлюстраваць свой час. Захапляла і адначасна трывожыла жывое цячэнне жыцця. У параўнанні з ім спомненыя аповесці Сакрата Яновіча, з іх польскаю мовай, былі як люстэркі ў цыркавым мястэчку смеху.

Але тое было са мною даўно, звыш дзесяці гадоў таму. У іншую маю і за вакном эпоху. Цяперака вось штодзённа глядзеў на мяне, як напамін таго чытацкага вопыту, прамавугольнік неразгорнутага беларускага "Самасея". Ён сачыў за мною, і я ведаў, што чытанне яго мяне ўжо не абміне. Дык чытаць было мус. Мус - і цікавасць! Бо за той час, калі "Самасей" адлежваўся ў мінскіх шуфлядах, Сакрат Яновіч паспеў выдаць па-польску яшчэ некалькі кніг і сталічныя крытыкі, а за імі і нашы беларускія прырэдакцыйныя кругі загаварылі аб аўтары "Загонаў" як аб найбольш таленавітым ды вядомым беларускім пісьменніку ў Польшчы.

Я пачаў чытаць - і ахаць ад задавальнення: даўненька так у смак не чыталася па-беларуску! І стаў я пытаць сябе самога: кім жа ёсць Яновіч як празаік? Пісьменнікам сучаснасці ці адлюстравальнікам мінулага? Літаратарам з зацятасцю публіцыста ці аўтарам сацыяльна-сентыментальных аповесцей? Лірыкам ствараючым міф беларускай Аркадыі-Крынак ці маралізатарам местачкова-вясковага паходжання, які ведае цану ўсякай утопіі і кпіць з яе староннікаў, з сябе самога дый з кожнага, бо ўсё на свеце адно горкага смеху варта?

Такія пытанні ўзнікаюць непазбежна, як вынік працы розуму, які ва ўсім чалавечым дзеянні, наогул хаатычным і дробязным, хоча дашукацца мэтанакіраванасці, глыбейшых сэнсаў, нутраных законаў руху і суадносін часткі да цэлага. Польскія даследчыкі ўпісвалі Сакрата Яновіча ў сялянскую плынь польскай літаратуры /Мысьліўскі, Кавалец/. Сам ён інтэнцыйна выказваўся, што быў вучнем такіх "настаўнікаў", як Бабель ды Хемінгуэй.

Творчасць Сакрата Яновіча не паддаецца гладкаму ўпарадкаванню; замутнены ў яго прынцып храналогіі ды заадно разамкнёны звенні эвалюцыйнасці. Пісьменнік сам nolens-volens зацірае гэты след паўтараючы, перадрукоўваючы, спалучаючы ў кнігах тэксты з розных перыядаў. Паўтараецца тэматычна і праблемна - як бы хацеў сказаць сабе, нам і свету нешта вельмі сутнае, але што яму так і не ўдаецца выявіць. Усе творы Сакрата Яновіча /аповесці, апавяданні ды лірычныя мініяцюры; апошні жанр часам за Янам Леаньчуком называюць "сакраткамі", аднак гэта тэарэтычна неабгрунтавана; прыклад таго, як лёгка можна ў літаратуразнаўстве каламуціць ваду/ маюць уласцівую толькі ім унутраную дынаміку, усімі імі рухае адзін своеасаблівы мастацкі механізм ды ўсе яны ствараюць адну цэласць і запоўненасць. "Самасей" і змешчаныя ў той самай кніжцы апавяданні, з якіх - як сцвердзіў аўтар - добры шматок было напісаных значна пазней аповесці, бачацца, аднак, як сіямскія сёстры: адно ў іх цела і кровазварот - тыя самыя структуры апавядання, тыя самыя кампазіцыі, сюжэты, геаграфія, героі, мова і той самы ідэаграфічны каларыт. Значыць, "Самасей", мінскае выданне, у агульнай карціне дагэтуляшняй Яновічавай творчасці і яе станоўчай ацэнкі нічога не мяняе.

Тым не менш якраз "Самасей" канцэнтруе ў сабе найбольш вартасныя рысы прозы Сакрата Яновіча. Рэтраспектыўна твор гэты зырка асвятляе ўсё раней ім напісанае і стаецца для большых ды меншых яго літаратурных твораў надта пажаданым кантэкстам. Таксама і таму варта да гэтага кантэксту прыблізіцца, унікнуць у яго вобразную архітэктоніку, каб зразумець сэнсы аўтарам выказаныя expressis verbis і не выказаныя, але створаныя ім незалежна ад ягонай творчай задумы.

"Самасея" пісаў Яновіч на зломе сямідзесятых гадоў, у іншай чым зараз на двары эпосе. Пісаў супраць той эпохі. Як свой пратэст. Аднак напэўна не прадбачыў так хуткай матэрыялізацыі сваёй нязгоды, сваіх сцішэлых "пажаданняў". А, можа, былі прадчуванні? Ці маецца іх след на старонках аповесці? Радыкальны палітычна-грамадскі ды гаспадарчы пераварот раптоўна дэкампрэсіраваў многія праўды, выкінуў за плот шмат розных ключоў-ідэй, адмычак-вартасцяў. Зараз з разбуранай рэчаіснасці вылушчваецца, праўда, зноў нешта фантастычна-заалагічнае, тым разам з ярлыком капіталізму, у сваёй існасці невядомае і многімі неўспрымальнае. Аднак жа ў перспектыве таго ўсё ж такі нечага іншага, неапазнанага, усе культурныя факты створаныя ў перыяд нашага нібы-сацыялізму, у тым ліку і "Самасей" Сакрата Яновіча, выразна мяняюць сваю ранейшую падсветку. Магчыма, іменна ў тым прычына таго, што ў зыначанай атмасферы з любасцю чытаецца тое, чаго да таго нельга было і дзесяці старонак асвоіць.

Па жанру "Самасей" гэта аўтабіяграфічная аповесць. Амаль усе празаікі выкарыстоўваюць фактуру свайго жыцця, як матэрыял для пабудовы мастацкіх сюжэтных ліній, фабулярных калізій. Адны распавядаюць пра тое ад свайго, аўтарскага імя. Іншыя хаваюцца за прыдуманымі героямі, як Сакрат Яновіч засланіўся сваім porte-parole Андрэем Антошкам /ці Юркам у навелцы "Таня"/. Хтосьці, асіліўшы кніжную мудрасць, мог бы спаслацца на тэорыю і сказаць, што літаратурнага героя ў ніякім выпадку нельга атаясамліваць з аўтарам, нават калі яны так аднолькавыя як блізнюкі.

Яно то так, але не ў выпадку гэтага твора Сакрата Яновіча. Ён уключае ў жыццяпіс Андрэя Антошкі /як і Юркі/ такія факты і дзеі, насычае яго такім адметным лірызмам, такімі распазнавальнымі дэталямі, што адразу і беспамылкова распазнаецца ў ім сам аўтар ды ніхто іншы. Мала таго, выглядае на тое, што Яновічу залежыць на тым, каб ён, "чалавек з прастромленай душой" быў распазнаны ў сваіх героях іменна як Сакрат Яновіч. У тым значэнні Андрэй Антошка не мае "незалежнага" ад аўтара, свайго аўтаномнага жыцця. Але гэта не загана, бо Андрэй - жывы герой, асабовасць дынамічная, са складаным нутраным светам і вялікай амплітудай псіхікі; гэта дапытлівы назіральнік і на сваю руку даследчык. Даследчык самога сябе ў першую чаргу. Удумваючыся ў сваё паходжанне, аналізуючы спробу выбіцца ў людзі, ён трапляе ў палон пачуцця прыніжанасці - сацыяльнай, грамадскай, нацыянальнай. Так "захварэўшы", ён гэту прыватную балячку абагульняе /"народ мой хворы" - кажа пісьменнік/ і будуе, як на фундаменце, і для іншых візію грамадскіх суадносін ды чалавечых лёсаў /"стварыў бы сваю дзяржаву, існавала б яна ўдалечыні ад свету, далёка ад хаосу"/. На шчасце, аднак, стварае толькі літаратурную дзяржаву, у якой дамінуе "беларуская хвароба", тая хвароба, якой аўтар "Самасея" адводзіць шмат месца і ў пазалітаратурных сваіх выказваннях.

Хвароба гэта мае ў Сакрата Яновіча канкрэтныя назвы. Усіх іх тут няма патрэбы вынатоўваць, таму што, як ні мяркуй, сходзяцца яны клінам на "праклятым" Беластоку. Ён населены, паводле аўтара "Самасея", "людскімі вываращэннямі", плебеямі кіраванымі страхам, натоўпам "пастухоў-злодзеяў, парабкаў-гультаёў, краўцоў-гарбацікаў, шаўцоў-п'яніцаў, крамнікаў-ашуканцаў". Вока ў вока стрэнешся тут з асобеням, абібокам, бадзяжнікам, ботам, булавой, белакаўнерыкам. Тутака дзейнічае на паверхні грамадскага жыцця балван, бугаіна, вулічнік, выскачка, гарэлачнае брацтва, дураlоб, дурань, дзялец, звалота, забойца, збалвень, ідыёт, камердынер, круцель, ламарэнда, лыч, людзік, лаханда, мужычка, няўдайла, паскуда, падмятайла, пляткар, падлюга, палавецкі твар, падонак, падлыгач, прайдоха, паскуднік, падшыванец, паганец, рабатай, разява, сука, свіння, смургель, хамула, целяпень, ціхман, ціха памешаны, цваны госць, чарнамазы, шафярняк ды шмат хто яшчэ. З іх выветрылася - як піша аўтар - сялянскасць, яны збіваюцца на чужы лад, жывуць як бы часова, бы на нейкім этапе з ліхога ў добрае. Уцекачы ад свайго чагосьці ды адкінутыя ад поля і хлява ў горад, каб у гарадскім цяпле мець "выгадней, смачней, бяспечней"; "бядота халерная пры грашах, але без душы". І кожны з іх панам хоча быць. "Не дай Бог, каб мужык панам стаў" - выказвае, аднак, думку Андрэй Антошка. Бо сваёй мэты яны прабуюць дабіцца пры дапамозе мардабояў, судоў, гвалтаў, крадзяжоў, гешэфтаў, здрадаў - і разбэшчаных маладзіц. Нічога дзіўнага, што пасярод таго непрылюднага зборышча "Андрэй Антошка сядзіць у Беластоку і ледзь з духам жыве!" Хоць ён таксама не мешчанін. Прышэлец. Прыбежнік. Антошка мае свае карэнні ў вёсцы. Аднак ён - іншы! Іншы хаця б тым, што ён неаднойчы выязджаў з вёскі, але так і не змогшы ад яе выехаць-уцячы назаўжды. Дый не хоча ён гэтага, для сябе не хоча, бо на прыкладзе тых іншых прыбежнікаў бачыць, як, здаецца, нармальныя вясковыя людзіскі, пераехаўшы жыць у Беласток, здраджваюць элементарную чалавечнасць і перахіляюцца ў подласць. Андрэй не любіць за гэта горада. Ненавідзіць - і па-за ім жыць не можа.

Канфлікт паміж вёскай і горадам, як адрознымі культурнымі сферамі, вядома, не новы ў літаратуры ні польскай, ні беларускай. Класічнае беларускае прыгожае пісьменства, аснаванае на народным светаўспрыманні, ідэалізуючае фальклорныя вытокі, пабудавана на выразным супрацьстаўленні света-чалавека вёскі гарадскому абывацелю. Гэтая адметная рыса беларускай літаратуры і плынь сялянскай польскай прозы не маглі не паўплываць на Яновічавую агульную задуму твора "Самасей" і ў асобнасці яго своеасаблівай варожасці да Беластока.

Не менш істотнай крыніцай малявання Яновічам вячэрне-трывожнымі ды згушчана-чорнымі фарбамі горада была ягоная псіхалагічная сітуацыя ў перыяд працы над аповесцю. Менавіта тады Беласток балюча адштурхнуў ад сябе таго, хто аднойчы з Крынак ірвануў у жаданы Беласток напрасткі - праз гушчарэвіну, ноччу. Тутэйшая партыйна-ўрадніцкая вярхушка, людкове з адпаведных служб, якія спрычыніліся, каб пісьменнік доўгі час адчуваў іх "справядлівую" руку, а таксама і нядаўнія аднасяльчане ды сябрукі ўцякаўшыя ад пакаранага "адшчапенца" на другі бок вуліцы - усе яны аднолькава аказаліся яму непрыхільнымі. Іх агульным тварам, агіднай мордаю стаўся варажнеючы да яго той жа Беласток.

Варта тут прыгадаць і яшчэ адну крыніцу адмоўнага погляду Сакрата Яновіча на Беласток і ў нейкай ступені на ўсю, так сказаць, беларускую Беласточчыну, якая за Гамулкі і Герэка хлынула ў гарады. Цураючыся свайго паходжання, піша аўтар, яны ставаліся "хамамі на паркеце". Іхняй дэградацыяй і распадам асабовасці рухаў комплекс прыніжанасці.

Дык вось стэрэатыпна-дрэннае бачанне Беластока як горада адсталага, гаспадарча і культурна запозненага ўвёў у літаратуру ды публіцыстыку Мельхіёр Ванькові̆ч. Паўтарыла за ім Марыя Дамброўская, якая назвала Беласток сметнікам, горадам выклікаючым агіду. Затым такі погляд на ўсю беластоцкую зямлю выказаў Уладзімір Паўлючук і гэты пункт бачання выдатна распаўсюджваў у свой час часопіс "Кантрасты". Галоўным рэдактарам яго быў тады Клеменс Кшыжагурскі. Вядома, яму - парашутысту - напляваць было на тую ж Беласточчыну. Ён проста на гэтым меў рабіць кар'еру - тады палітычную! "Кантрасты" ў шматлікіх так званых рэпартажах, між іншымі Казіцкага, Рошкі, Квасоўскага ды дзесяткаў іншых /у 1968 годзе прыехала ў Беласток група журналістаў, 50 чалавек, "зацікаўленая" культурным узроўнем гэтага рэгіёна/ гаварылі аб "чужых людзях" Беластока, паказвалі тутэйшых бушменаў, экзотыку, задрыпанцаў на zadupiu, культурны ды цывілізацыйны анахранізм.

Рэпартажы тыя ўсе без выключэння былі непасрэдна стэраваныя палітычна ды інспіраваныя актуальнай грамадскай сітуацыяй краіны. Іх аўтары былі вядучым колам тадышняй палітычнай гаспадаркі, так званай новай стратэгіі развіцця Польшчы 70-х гадоў. Іменна тады паявілася вельмі многа крытычных матэрыялаў пра Беласточчыну. І тыя янычары Герэка дабіліся свайго - у Беластоку пачало фукцыянаваць "пачуццё горшасці".

Калі, значыць, пасля шостага з'езда ПАРП у 1973 годзе сактратарам партыі ў Беластоку стаў З. Куроўскі, а ў 1974 годзе "Кантрасты" ўзначаліў К. Кшыжагурскі, вобраз Беласточчыны мяняецца радыкальна - на горшы! Гэта тады, рэалізуючы przyśpieszenie białostockie, знішчылі Візну і Бебжу, архітэктуру гарадоў і вёсак, атруцілі глебу і ваду. То тады гістарычныя і культурна-нацыянальныя катэгорыі поўнасцю падпарадкавалі эканамічным катэгорыям гэтага рэгіёна. То тады таксама ў "Кантрастах" дый у часопісах цэнтральнай Польшчы паявіліся рэпартажы "o wcieleniu się tutejszych grup etnicznych w polską społeczność narodową".

У 1978 годзе паявілася пад рэдакцыяй К. Кшыжагурскага кніга рэпартажаў "Odejdźcie od nas wszystkie strachy". Адным з аўтараў гэтай кнігі быў Сакрат Яновіч, які апублікаваў у ёй свой рэпартаж "Po drodze nam było do miasta". Дамінуе ў яго, як сам піша на старонцы 356, адна ідэя /якую - дадам ад сябе - палякі зашчапілі і ў беларускую душу, прымушаючы да таго ўсяго ненавідзець свой краявід, сваю малую айчыну/ - ідэя-абсесія паходжання, комплекс прыніжанасці. Тыя адмоўныя вартасці, на якіх апіраецца "Самасей", пісаны аўтарам у 70-х гадах.

Вядома, нельга атаясамліваць барабаншчыкаў Герэка і прыкантрасную брацію, хто кіраваўся палітыкаю аднанацыянальнасці польскай дзяржавы, з поглядамі Сакрата Яновіча на тутэйшыя нацыянальныя праблемы. Аднак жа доўгі цень той непрыхільнасці да Беластока і яго засяляючай шматлюднай беларускай грамады цягнецца ў аповесці "Самасей" таксама ж і ад "Кантрастаў".

І зноў жа трэба сказаць, што вобраз як бы адчалавечанага Беластока ў аповесці "Самасей" напісаны Яновічам таленавіта, па-мастацку пераканаўча. Пераканаўча між іншымі таму, што такім здэфармаваным горад бачыць і ўспрымае Андрэй Антошка, цэнтральная постаць аповесці, якой псіхалагічны партрэт раскрыў аўтар з вялікай самааддачай. Хоць у паводзінах Андрэя можна ўгледзець некаторыя рысы героя ў Оруэла і Кафкі, аднак ён, так сказаць, тыповы герой беларускай літаратуры - той літаратуры, якая мае быць!

Вобраз Андрэя Антошкі так складаны і шматзначны, што сустрэча з ім можа выклікаць у чытачоў і даследчыкаў самыя нечаканыя ацэнкі і асацыяцыі. На літаратурным семінары "Белавежы" У. Рубанаў выказаў думку, што Антошка - чалавек псіхічна зломаны, асабовасць зашораная, у каго няма станоўчых рысаў характару, увесь ён перакошаны ў недахоп. І што вось ён - гэта тыповы прадстаўнік сацыялістычнай сістэмы жыцця. І што моў савецкія беларускія пісьменнікі намацвалі яго, але не змаглі паказаць такога чалавека з увагі на цэнзуру. Сацыялістычны чалавек перш за ўсё чалавек стадны, выпрэпараваны з індывідуальнай адметнасці - паводзінамі, эмоцыямі, мыслямі падобны да тысячы іншых. З такіх "тысячных" складаўся адзін таталітарны чалавекападобны арганізм. Тым часам Андрэю і вясковым людзям, тым хто астаўся ў вёсках і тым, хто пасяліўся ў блокавых кватэрах "вялікага горада Беластока", надта цесна, ой як цесна ў сацыялізме. Цесна душэўна. У аповесці кожны з іх мае не абы якую прыкмету, кожны з характарам. Усе героі Яновіча, разам з Андрэем Антошкам, не пагаджаюцца з згладжваннем іх буйнай натуры "прыватнікаў", прыхільнікаў вольнай жыткі. Вось таму - па розных прычынах аказаўшыся ў горадзе - адны дзічэюць, іншыя душэўна ды фізічна хірэюць і проста чэзнуць у мястовай ананімнасці. Прападаюць, таму што генна яны не ў змозе прыстасавацца да сацыялістычнага-гарадскога плана, тэорыі ўраўняльнасці.

Не, Андрэй Антошка ні ў якім выпадку не ёсць прадстаўніком сацыялістычных суадносін. У ім адлюстроўваецца, наадварот, чалавек вольнага грамадства. Вольнага ад якіх-небудзь сістэм, схемаў, стэрэатыпаў, догм. У таталітарных сістэмах гарадская думка была "маёй" думкай, грамадскія пачуцці былі "маімі" пачуццямі, грамадства акрэслівала - праз дазіраванне мовы, традыцыі, асветы, масавай інфармацыі - усё маё духовае жыццё. Я было нічым. Адзінка - нуль! Антошка, не да канца разумеючы вонкавы свет, які рухаецца на яго, віруе навокал, не пагаджаецца з той "прыгожай" рэчаіснасцю і супрацьпастаўляе ёй, як абарону сваёй індывідуальнай асабовасці, нешта палярнае таму, менавіта адмоўныя ў першую чаргу, на тую грамадскую знешнасць, рэакцыі: абыяка-

*Працяг на стар. 8*

## ДРУГОЕ ЧЫТАННЕ

*праця́г са стар. 7.*

васць, белую гарачку, баязнечу, гнеў, глум, грубіянства, дурасць, жаласлівасць, жах, злосць, зайздрасць, зласлівасць, зласонне, лізунства, плач, пазяханне, перапуд, праклён, пагарднечу, раздваенне, страх, смутак. Ён часта пацее і мае вялікую задаволенасць ад сытай ежы. Гэта таксама як пратэст супраць адладжаных грамадскіх паводзін.

Ці ён псіхічна зломаны герой? І ці характар яго перакошаны ў недахопы? Зломаны ды перакошаны, відаць, з пункту гледжання сацыялістычнай маралі. А ў сапраўднасці Андрэй Антошка постаць у меру хворая, у меру здаровая; ён у меру дарослы і адукаваны ды ў меру захаваў прывабнасць дзіцячага погляду на свет, падлеткавай наіўнасці /адзін з прызнакаў гэтага: многія з'явы і прадметы здаюцца яму вялізнымі, напр.: Беласточыска, кулачыска, вятрыскі, сабачыска/. Ён таксама ў меру насычаны жыццём, глыбока разумеючы розумам, што для яго і кожнага іншага існаванне пад сонцам - зусім выпадковае, "не зусім каб патрэбнае", і ён жа ў меру чапляецца таго жыцця, усё шукаючы ягонага сэнсу /"Чаго я варты?", "У чым каштоўнасць майго жыцця?", "Якімі словамі паведаміць вам аб гэтым?"/. Андрэй Антошка - амаль вучоны, назіральнік, разумнік, каго не лёгка абхітрыць нават найбольшым хітрунам ці следчым з міліцыі. Ён стварае лагічныя канструкцыі і ў той самы час ён карыстаецца ў зносінах са знешнім светам шырокім спектрам іншай, пазаразумовай чалавечай актыўнасці: снамі, настроямі, пачуццямі, эмоцыямі, прадчуваннямі /напр.: "пеканула нязведанае"/.

Гэтых "у меру" прыкмет характару Андрэя можна было б даваць прыклады яшчэ і яшчэ. Але ўжо і на падставе сказанага відаць, што Антошка - герой не схематычны, не падпарадкаваны нейкай назойлівай ідэі, а амбівалентны, як большасць нармальных людзей кінутых у соцыум. Раптоўнай здаровай пераменлівасцю, адначаснай дыхатоміяй паводзін, сваім усім нажытым нутраным вопытам, душэўным жыццём ён супрацьпастаўляецца ў аповесці "Самасей" іншым героям, якія - адмаўляючыся ад духовых патрэб - хутка пераафармоўваюцца ў прадметы, рэчы, у homo consumens.

Андрэй Антошка, як і Сакрат Яновіч - выхадцы з Крынак. Аднак адзін і другі перараслі тую сваю родную калыску. Андрэй-Сакрат намнога больш складаны і загадкавы, чымсьці гісторыя Крынак з іх да шаленства ўбогай прасторай. Яны звязваюць у адзін вузел аповесці ўсенькія кускі жыцця свайго ды іншых людзей. І развязваюць той вузел, каб зразумець хоць крыху тую тайніцу чалавека, якая схавана для іх у іх саміх.

Мне да спадобы іх беларускія сіняві душы, няпоўнасць, маласць, падзенне і да спадобы вышынны дух гарэння, прасветленыя думкі аб чалавеку. Андрэй - прыклад адраджэння беларуса ў літаратуры.

**ЯН ЧЫКВІН**

## КАМУ МУЗЕЙ?

*праця́г са стар. 1*

не прыхіляецца з увагі на адмоўны грамадскі выгук, які мог бы прынесці такі крок. Музей жа будуецца не адно за грошы міністэрства, але за сродкі Рэспублікі Беларусь, за сродкі беларускай эміграцыі і беларусаў у Польшчы.

Удзел дзяржавы ў пабудове Беларускага музея выглядае наступным чынам: 1990 год - 2 мільярды злотых датацыі, 1991 - 500 мільёнаў, 1992 - 500 мільёнаў.

Віцэ-міністр Міхал Ягела задэклараваў на сустрэчы старанні пра 2 мільярды злотых, якіх бракуе дзеля завяршэння пабудовы. Першую рату /500 мільёнаў/ віцэ-міністр задэклараваў на першую палову новага года.

Міністэрства культуры і мастацтва, сказаў Міхал Ягела, бачыла б гайнаўскую ўстанову не як залу памяці з XIX стагоддзя, але як музей у сучасным значэнні гэтага слова. Міністэрства прыхіляецца да ідэі, каб Беларускі музей меў этнаграфічны характар, каб адлюстроўваў культуру і жыццё беларусаў на гэтых землях. На такую менавіта канцэпцыю музея чакаем у міністэрстве, сказаў віцэ-міністр Міхал Ягела. Гэты фармальны бар'ер мусім пераскочыць.

Прадстаўнікі Грамадскага камітэта пабудовы самі сцвердзілі, што будаваць то яны ўмеюць, але ў канцэпцыйнай працы, маўляў, мы не майстры. Мерытарычную дапамогу ў апрацаванні праграмы Беларускага музея ў Гайнаўцы задэклараваў і віцэ-міністр Міхал Ягела і пасол Беларусі Уладзімір Сянько. Абрыс гэтай праграмы мае быць гатовы да канца лістапада.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### Чым жывуць доўгажыхары?

Адказ на гэтае пытанне з даўніх часоў хваляваў людскія розумы. У Балгарыі даследаваннем таямніц даўгалецця займаецца Сафійскі цэнтр геранталогіі і герыятрыі. Шматлікіяназіранні паказваюць, што сярод такіх жыхароў спомненай краіны, якія перайшлі стогадовы жыццёвы рубеж, складаюць сяляне невялікіх вёсак. Значную частку часу — не менш як 15 гадзін у суткі — яны праводзяць на вуліцы, харчуюцца гароднінай, садавінай, малочнымі прадуктамі, асабліва славутым балгарскім кіслым малаком, мясам дробнай жывёлы і птушкі. Доўгажыхары, як правіла, пачыналі працаваць з ранняга дзяцінства. Амаль ніхто з тых доўгажыхароў, з кім гутарылі вучоныя, не хварэў цяжка і не звяртаўся да лекараў.

Даследаванні выявілі даволі цікавую заканамернасць: доўгажыхарамі часцей бываюць дзеці маладых бацькоў. Самі яны, як правіла, маюць шмат дзяцей.

**(а-ця)**



ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# САБАКА І САБАЧКІ

На вуліцах Беластока стаяла летня-нядзельная цішыня. Хто жывы, выехаў за горад, бліжэй да вады, на чысцейшае паветра. А куды? Хоць куды, але найлепш у Супрасль — першы „курорт" для беластаччан. Мікраклімат тут для сардэчна хворых, і ад горада блізка. Мелі калісь нават санаторый у Супраслі будаваць.

Ніводным летам не было тут так густа ад людзей, як сёлетнім, гарачым. Многія ўзялі з сабою наймілейшых сяброў — сабак. Вунь невялікі сабачка на прывязі, зачэплены за агароджу. Другі, бедалага, такі яшчэ маленькі, што ад ашыйніка аж галава ўгінаецца. Гаспадары ўзялі іх з сабою: сядзі, маўляў, і ты, дыхай сабе свежым паветрам, толькі іншым, глядзі, не перашкаджай.

Ад цяпла і вільгаці разбірае млявасць. Дзеці плюскаюцца ў плыткай вадзе, але і так бацькі ні на хвіліну не спускаюць іх з вока. Увесь час спаглядаюць у бок вады. Не заўважылі нават, калі падышлі муж і жонка з таўшчэзным бульдогам. Жонка — пляжнаму: у вялізным капелюшы, з лежаком, муж — з масіўным ланцугом у руках, на якім вёў сабаку. Не распранаючыся, жонка бухнула на ляжак. Муж закаханым позіркам глянуў на свайго чатырохногага любімца і адчапіў ланцуг ад яго ашыйніка. Сабака, ашалелы ад шчасця і волі, быццам на крылах пачаў лётаць па пляжы, па пасцілках, па вопратцы, па раскладзенай ядзе! Навошта яму тая яда! Яму б пагойсаць толькі. Не, яды яму не трэба. Нават не панюхае — відаць, у хаце хапае. Мо тэлевізійным „пэдэгрыпалам" яго кормяць, а мо і татарскім біфштэксам з сырой ялавічынкі. Распасены — о-го-го! А злосны! Бурчыць незадаволена на дзяцей, відаць, добра выдрэсіравалі яго на стоража багатай вілы.

Тым часам бедныя маленькія сабачкі цярпліва чакаюць на прывязі, пакуль не паменшае ў вадзе дзяцей і гаспадары не занясуць іх на руках у рэчку, каб хоць крыху памачыліся і ахаладзіліся. Тэмпература ўсё ж 35 градусаў... Але нельга ім купацца разам з дзецьмі.

Пану вялізнага бульдога зусім не перашкаджае, што ў рэчцы купаюцца дзеці. Ласкава дазваляе сабаку скочыць у ваду. Якраз у тое месца, якое аблюбавала сабе большасць дзетак. „Асцярожна, бо ён можа ўскочыць вам на плечы, — папярэджвае дзяцей велікадушны ўладальнік сабакі, — Можа ўтапіць!"

Хаця была гарачыня, па целе нашай суседкі прабег мароз. Крыху далей у рацэ, дзе ёсць невялікі заліў і вада заўсёды спакойная, гуляла з лапаткай і вядзерцам яе пяцігадовая дачушка. А што, калі гэты велікан скочыць убок? З непакоем глянула яна на дзіця. Пра адпачынак ужо не думала.

Іншыя бацькі таксама занепакоіліся, паўставалі, пачалі выцягваць дзяцей з вады. Неўзабаве вакол сабакі не было ніводнага дзіцяці. Во цяпер дык меў прастор! Плаваў, разграбаў гразь, акунаўся, ізноў бегаў па дрыгве. Здольная бестыя! Пан, стоячы на беразе, толькі ўсміхаўся, а яго жонка, седзячы далей на лежаку, з пачуццём перавагі акідала пагардлівым позіркам увесь свет.

Сабака як неспадзявана ўскакваў у ваду, так і выскакваў. Фыркаў тады, абтрэсваўся, пускаючы навокал цэлы фантан гразі. Бегаў па чужых пледах, па чыстых ручніках, па людзях, якія загаралі.

Урэшце жанчына, па целе якой сабака прабегся ўжо другі раз, не вытрымала. Проша пана, сказала яна, не кожнага цешыць такая забава! Вам гэта радасць, іншым — не!

Абураны пан уз'еўся:

— А што ён такога робіць?

Уключыўся нейкі мужчына:

— Вы паводзіце сябе так, быццам бы гэты ўчастак быў вашай уласнасцю.

— А што, можа гэта ваша зямля і рака, га? — агрызнуўся той, а сабачая пані яму дапамагла: — Не будзьце адвакатам, калі вас не просяць!

Жанчына, дзяўчынка якой гуляла крыху далей, яшчэ спрабавала тлумачыць гэтаму чалавеку, што людзі наогул не пускаюць сабаку, тым больш такога вялізнага, у раку тады, калі купаюцца там дзеці, але той ужо не слухаў. Ведаў сваё!

— А зрэшты, — сканстатаваў ён, — гэта не гарадскі пляж! Усе тут могуць рабіць, што хочуць. Цяпер дэмакратыя.

Маці пяцігадовай дзяўчынкі ўздыхнула і сказала:

— А што б вы зрабілі, калі б сабака быў мой, а дзіця — ваша?

* * *

Малыя сабачкі на прывязі зайздросна пазіралі, захопленыя вялікім сабакам. Было ім прыкра, што іх гаспадары разумелі дэмакратыю паіншаму.

Сонца кацілася на захад. Трэба было збірацца дахаты. Калі наша сям'я падыходзіла да свайго 6-гадовага „FSO", перад намі шмыгнуў „мерседэс" з бульдогам. Сядзеў ён ззаду і, як дзіця, спаглядаў праз заднюю шыбіну.

На прыпынку, чакаючы аўтобуса, стаяла наша суседка па пляжы. Адной рукой моцна трымала сваю пяцігадовую дачушку, а другой — усё, што ўзяла з сабой на пляж. Клятчасты плед трымала пад пахай.

Малыя сабачкі са сваімі гаспадарамі, бачылі мы, пехатою пайшлі дахаты. Яны былі тутэйшыя.

**АДА ЧАЧУГА**




### „БЕЖАНСТВА" — НАША ТРАГЕДЫЯ

Вельмі цікавы артыкул Яўгена Мірановіча „Бежанцы" („Ніва" н-р 40) пераканаў мяне, што пра тую трагедыю беларусаў Беласточчыны можна пісаць інакш. Калісь, за камуністаў, калі пісалі пра бежанцаў, заўсёды зводзілі справу да ўдзельніцтва нашых продкаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Праўда, былі сярод бежанцаў сапраўдныя камуністы, сябры Леніна, якія чакалі потым 20 гадоў на Чырвоную армію. Адзін жыхар Дубіч-Царкоўных, які ганарыўся тым, што бачыў Леніна і вітаў у 1939 г. сваіх аднадумцаў, два гады пазней служыў як сабака немцам. На нашае шчасце не ўсе былі бальшавікамі або іншымі дэгенератамі.

Мае бацькі таксама былі ў „бежанстве". Маці была ў Саратаўскай губерні, што над Волгай. Не наракала на жыццё ў Расеі. Пра расейцаў захавала найлепшую памяць. Нябраз гаварыла, што яны вельмі добра адносіліся да эмігрантаў з Беласточчыны і дзяліліся з імі апошнім кавалкам хлеба. Гэта праўда. Але тады рускі народ станавіў адно з найбольш набожных грамадстваў, а хрысціянская маральнасць была ў яго не толькі на вуснах, але перш за ўсё ў душы. Шмат чаму беларусы маглі навучыцца ў рускіх, напрыклад, як рэгулярна карыстацца з лазні, але пазналі таксама і якія яны лянівыя. У тых самых раёнах, дзе жылі побач сябе рускія і немцы, існавалі дзве цывілізацыі. Рускія вёскі — маленькія драўляныя хаты, нямецкія — вялікія мураваныя будынкі. Усе мелі аднолькавыя ўмовы да працы, аралі аднолькавую зямлю, але немцам яна давала больш.

Сям'я майго бацькі апынулася на Сібіры, у Омску. Амаль усе дзеці маглі вучыцца ў школе, а старэйшыя знайшлі адпаведную працу. Дзядзька мой нават здабыў сярэднюю адукацыю і стаў настаўнікам у вёсцы каля Омска. Некаторыя сваякі сем гадоў пражылі ў Сібіры і ніколі дрэннага слова не сказалі пра людзей гэтай вялікай краіны.

Вярнуліся сапраўды ў пекла, на галодную і бедную Беласточчыну, дзе штодзённай марай было наесціся прынамсі бульбы. Бацька са сваім братам наймаліся пасці свіней. Зарплатай было два пуды жыта. Гэтыя цяжкія ўмовы давалі да таго, што адзін мой дзядзька, а пасля другі, заняліся палітыкай, за што і пасядзелі пару гадоў у турмах.

У 1920 годзе, як гаварылі людзі, якія вярталіся тады з Расеі, сапраўдны воўк на чатырох лапах не быў так жахлівы, як воўк на дзвюх нагах, што зваўся чалавекам. Кажуць, што гісторыя любіць паўтарацца.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ПРА ВОСЕНЬ

Замаўкаюць птушыныя звонкія спевы,
Калі восень прыходзіць у край наш лясны,
І, як свечкі, вакол ярка ўспыхваюць дрэвы
На праводзінах лета, на памінках вясны.
Там, дзе восень ідзе, лес шумлівы радзее,
Вецер гоніць хмарыны з-за цёмных ялін.
Грозны чуючы сівер, лісты, як надзеі,
Аблятаюць на дол з пачарнелых галін.
Я, ўлюбёны ў жыццё, не скаруся пагрозе,
На праводзінах тых, на памінках старых.
Выйду з лесу і стану ў зімы на парозе
Дрэвам я, што лістоў не губляе сваіх.
Я трымаў іх з вясны, да вясны датрымаю,
Не развею па свеце, не кіну ў бяду,
Дружным пошумам іх новы май прывітаю
І з адзінаю просьбай на дол упаду:
- Адгукніся, вясна, мне зязюляй з-за рэчкі,
Дай яшчэ раз прыпасці да любай зямлі
І каштанаў сваіх незгасальныя свечкі
Над маёй адшумеўшай галавой запалі!

АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ



*— Сёння я вышэй усіх! — смяецца Веранічка.* *Фота Віктара Шніпа*

## МАЕ КАНІКУЛЫ

На летніх канікулах я была ў бабулі. Разам з сябрамі я купалася ў рэчцы. Хадзілі мы ўсе ў лес па грыбы і ягады. У дажджлівыя дні я глядзела праграму тэлебачання і дапамагала бабулі.

Аднойчы мы з сяброўкамі паехалі на веласіпедах у лясок. Там распалілі вогнішча. Пяклі каўбаскі і бульбу. Разам з намі была мама адной сяброўкі. Начавалі мы пад палаткамі.

На канікулах я не перажыла нейкай цікавай прыгоды, аднак правяла іх цікава і весела.

**АСЯ ЯФІМЮК**, VI"ц" клас, школа ў Бельску

## ДАРАГАЯ "ЗОРКА"!

6 кастрычніка бягучага года наведаў я Пачатковую школу ў Палічнай, што ў Кляшчэлеўскай гміне. Пра аўтарскую сустрэчу напішуць, пэўна, самі школьнікі.

У Палічнай вучыцца 53 дзяцей, між іншым з Апакі, Белай Стражы, Курашава і Вярстка. Беларускую мову вывучае каля 90 працэнтаў усіх школьнікаў. Сёлета палічнаўскія вучні збіралі грыбы ў лесе і прадавалі іх у пунктах скупкі - зарабілі крыху грошай. Зараз вучні сёмага і восьмага класаў задумалі арганізаваць дыскатэку. На яе запросяць - так усе згодна вырашылі - сёлетніх выпускнікоў палічнаўскай васьмігодкі. Будзе пачастунак - піражнае, гарбата. Плануюць таксама паездку ў Беласток, каб паглядзець спектакль у Лялечным тэатры. Паедуць туды разам з вучнямі кляшчэлеўскай школы. Так гэта было і ў мінулыя гады.

Прывітанне табе, мілая "Зорка", ад вучняў з Палічнай! Пераказаў яго -

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

## Вясёлы куточак

- Ася, ты не ведаеш, дзе мая памада?
- У маёй лялькі. Яна малявалася.

xxx

- Бабуля, глянь, якія ў мяне кветкі!
- А дзе ж ты іх узяў?
- З твайго стала.

xxx

Раніцай маці заўважыла, што Рыгор спаў з бруднымі нагамі.
- Як жа табе не сорамна! - пачала яна дакараць сына.
- А гэта ж я ў сне па балоце хадзіў! - не міргнуўшы вокам адказаў Рыгорка.

xxx

*Працяг на стар. 10*

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### ЯКОГА СМАКУ МЫЛА?

Аднойчы падчас сваіх начных вандровак па кватэры мышка Пік-Пік забегла ў лазенку. Там, зразумела, не было нічога смачнага, але Пік-Пік заўважыла на палічцы рознакаляровы кавалачкі мыла. Выглядалі яны вельмі апетытна, а пахлі яшчэ спакусней.

- Ды гэта зусім і не мыла! - пераконвала сябе мышка. - Хіба звычайнае мыла можа быць такім прыгожым!

І мышка наважылася, узяла ружовы круглячок з цукерачным пахам і адкусіла добры кавалак. На жаль, гэта ўсё-ткі было мыла. Пік-Пік не паспела яго выплюнуць і цяпер страшэнна крыўдзілася на ўвесь свет.

- Падманваюць сумленных мышэй... - сярдзіта прагаварыла Пік-Пік, і тут з яе рота вылецела мыльная бурбалка, а за ёй - яшчэ адна. - Ой! - спалохалася мышка, і наступная бурбалка села ёй на нос. - Ратуйце! Гвалт! - закрычала мышка, і, пускаючы бурбалкі, кінулася ў пакоі.

Тата, Мама, Веранічка і Пепіта прачнуліся і здзівіліся: па ўсёй кватэры лёталі вельмі прыгожыя рознакаляровыя шарыкі. Яны лопаліся, пакідаючы мыльныя пырскі, а на падлозе сядзела Пік-Пік і горка плакала.

- Што здарылася? - запытаўся Тата.

- Ды вось... - сказала мышка, выпусціўшы з рота бурбалку.

- Ого! - зазначыў Тата. - Што б гэта значыла?

- Ды яна мыла з'ела! - засмяялася Веранічка. - Падумала, што цукерка.

- Усяго адзін кавалачак, - запярэчыла мышка, пусціўшы ў паветра цэлую зграю бурбалак.

- Ну вось што, - сказала Мама. - Пакуль усе бурбалкі з цябе не вылятуць, нічым не дапаможаш. Таму ідзі на балкон, а то ўся хата ўжо запырскана, і пастарайся да раніцы ўсе бурбалкі выпусціць!

Пайшла няшчасная мышка на балкон. Каб вылятаді бурбалкі, трэба нешта гаварыць. А з кім тут гаварыць? Сама з сабой? Сумна! І мышка вырашыла паспяваць.

Ляцела варона, ледзь не ўпала ад здзіўлення: сядзіць на балконе мыш, пяе, з рота бурбалкі пускае! Села варона ля мышкі, папыталася:

- Што ты тут робіш?

- Ды вось, - заплакала Пік-Пік, - з'ела кавалачак мыла, дык з хаты выгналі...

Варона аж расчхалася ад мноства мыльных бурбалак, што вылецелі з мышкі. І тут у галаву вароны прыйшла бліскучая думка.

- Паслухай, Пік-Пік, - сказала варона. - Ты можаш дапамагчы ўсяму нашаму двару! Ведаеш злога сабаку, што прывезлі новыя жыхары?

Мышка Пік-Пік, канечне, ведала гэтага зладзюгу: нікому ў двары ён праходу не даваў.

- Дык вось, - працягвала варона, - мы адвучым яго брахаць. Прынясі толькі мыла, якое ты каштавала.

Мышка збегала ў лазенку і прынесла мыла. Варона схапіла яго і паляцела ў кватэру, дзе жыў злы сабака. Фортка, на шчасце, была расчыненая. Сабака спаў, а перад ягоным носам стаяла міска, напоўненая кавалкамі каўбасы, косткамі, абгрызкамі. Варона сунула мыла між кавалкаў каўбасы і гучна каркнула. Сабака мігам ускапіўся і забрахаў. Варона вылецела, а сабака падумаў: "Гэта ж яна па маю ежу прылятала! Не трэба было назаўтра пакідаць. Лепей з'ем усё цяпер, а то скрадуць!" І сабака зжэр усё разам з мылам і нічога не заўважыў.

Раніцай пабег злы сабака на двор. І якраз з пад'езда выйшлі Веранічка з Мамай.

- Гаў-гаў-гаў! - забрахаў сабака, каб напалохаць іх. І тут з ягонай пашчы вылецела некалькі вялізных мыльных бурбалак. Сабака спалохаўся і змоўк. Але тут на куст села варона.

- Гаў-гаў... - сказаў сабака, і з яго вылецелі яшчэ бурбалкі. Сціснуў сабака пашчэнкі, а варона давай над ім рагатаць. Паспрабаваў сабака яшчэ пару разоў гаўкнуць, але, убачыўшы бурбалкі, зусім спалохаўся і кінуўся дадому, лячыцца ад невядомай хваробы. Ад таго часу зрабіўся ён самым маўклівым і выхаваным сабакам у двары.

А мышка Пік-Пік нічога гэтага не бачыла, бо соладка спала ў норцы: мыльныя бурбалкі ў ёй даўно ўжо скончыліся!

ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ



*Малюнак Ліліянкі Лубы з „беларускай школкі" ў Беластоку.*

## Вершы Віктара Шведа

### Я ПАЙДУ НА ПРАЦУ

Наталька малая
З вялікай ахвотай
Заўжды абувае
Бацькоў сваіх боты.
У маміны стала
Цяпер абувацца
І раптам сказала:
- Пайду я на працу.

### Я ХАЧУ БЫЦЬ МАМАЙ!

Матуліна сумка
Натальцы прынадай.
Ды замест ласункаў
Знайшла там памаду.
Пазногці фарбуе
І губкі таксама.
Татульку талкуе:
- Я хачу быць мамай.

### ПАМЯЦІ КАРОТКІ СТАЖ

- Памяці маёй кароткі,
Як дагэтуль, стаж.
Таму ў хаце несалодкі
Часам побыт наш.
Хоць ужо я не малая,
Мне другі гадок,
Ды яшчэ ўсё забываю
Пра... начны гаршчок!

### НАТАЛЬКА І ПРАЛЬКА

Мама многія хвіліны
Мусіць прабываць у ваннай.
Сваю пральную машыну
Уключае пастаянна.
Тады шустрая Наталька,
Як не ўгледзіць толькі мама,
Пераключыць хутка пральку
На адвольную праграму.

### Я ПАЙДУ "ДА СКЛЕПУ"

Узяла авоську Ната,
Абулася ў "тэпу",
Адазвалася да таты:
- Я пайду "да склепу".
"Бубу" трэба мне прынесці
І хлябок харошы.
Спахапілася нарэшце:
- Няма ў мяне грошай.

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Сырое лета і доўгая восень - перад доўгай снежнай зімой.
Частыя лістападаўскія дажджы - лета будзе мокрае.
Лістападаўскія туманы - прадвеснікі зімовых адлiг і позняй вясны.
Праясняецца на ноч пахмурны дзень - варта чакаць замаразкаў.
Калі на дзень Міхайлы (21 лістапада) упаў іней - зіма будзе снегавая.
Калі на Матрону (22 лістапада) іней на дрэвах увесь дзень - да блізкіх маразоў, з'явіўся туман - да блізкай адлігі.
Позна ўвосень з'явіліся камары - зіма прадбачыцца мяккая.
Высока ляцяць гусі - снегу будзе шмат, нізка ляцяць - мала.

## ЛІСТАПАД

Апошні месяц восені. І, бадай, самы непрыемны. Дарогі раскіслі ад бесперапынных дажджоў, вясковыя вуліцы патанаюць у гразі. Рэдкае цяпло можа змяніцца мокрым снегам, а ранкамі хрумсціць пад нагамі шкло замёрзлых лужын. Зусім кароткім стаў дзень. Яшчэ зацемна ідуць у школу дзеці і да цямна не паспяваюць зрабіць урокі.

Пажухла трава, усё наўкола нейкае бурае. Зелянеюць толькі брусніčнік ды журавіннік. Відаць, гэтыя вечназялёныя хмызнячкі захаваліся з таго часу, калі ўся зямля была трапічным лесам. Зразумела, лісце іх не вечнае, але трымаецца па 3-4 гады і паступова абнаўляецца. З зялёным лісцем зімуюць таксама некаторыя рэдкія травы, напрыклад званочкі.

У жыхароў палёў і лясоў настае галодная пара. І, зразумела, яны мала спадзяюцца на дапамогу людзей, а самі хаваюць свае запасы на зіму. Часам здараецца знайсці поўнае дупло арэхаў. Толькі самы бязлітасны чалавек можа насыпаць імі кішэні, пакінуўшы без харчу вавёрку. Пад мохам хаваюць птушкі кучкі спелых жалудоў, разанстайнага насення дрэў і нават лічынак і вусеняў. А там, дзе водзяцца совы, можна натрапіць на дупло, напоўненае мёртвымі мышамі і дробнымі птушкамі.

Цікава захоўваюць свае запасы тхары, норкі, гарнастаі. Здабычу (звычайна жаб) трымаюць у норах жывой, але нерухомай. Звяркі перакусваюць ім пазваночнік.

У нашых запаведніках можна назіраць восеньскую мітусню баброў. Па начах яны падгрызаюць ля берагоў вербы, асіны, бярозы, валяць іх, раздзяляюць на даволі буйныя кавалкі і валакуць да сваіх хатак. Там паблізу прыкопваюць на дне, каб не ўсплывалі. Верхнія канцы пасля ўмярзаюць у лёд, і бабры ўсю зіму побач з домам маюць свежы корм.

Кожны да зімы рыхтуецца пасвойму.

### Вясёлы куточак

*Працяг са стар. 9*

- Дзед, а ў цябе зубы ёсць? - пытаецца Андрэйка ў свайго дзядулі.
- Няма, унучак.
- То патрымай мае арэхі, а я пабягу, яшчэ нам нарву.

ххх

Дзеці аглядаюць звярынец.
- Хто скажа, чаму ў ільва такая вялікая галава? - пытаецца настаўніца.
- Каб не вылез з клеткі!

Падборку зрабіла
**АСЯ ПРАЛЕСКА**













# АДКУЛЬ КАПЫЛЬ...

народнае паданне

Мал. Л. Шніп
92



















„АДКУЛЬ КАПЫЛЬ..." — народнае паданне. Малявала Людміла Шніп.




## ЗАПЯКАНКА

На 20 дэкаў рысу (можна ўзяць пярлоўку) патрэбны прадукты: 1 шклянка малака, 20 дэкаў курынага ці іншай птушкі мяса (печанага ці тушанага), 15 дэкаў пячурыц, 40 дэкаў гародніны (морквы, пятрушкі, сэлеру), 15 дэкаў цыбулі, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 2 лыжкі тлушчу, соль, перац, папрыка ў парашку, 1 лыжка цертай булкі.

Рыс перабраць, памыць, адцадзіць і зварыць так, каб быў сыпкі, у вадзе (напалавіну з малаком) з соллю і 1/4 лыжкі тлушчу.

Гародніну памыць, ачысціць, крыху падварыць у пасоленай вадзе, адцадзіць. Цыбулю парэзаць пер'ямі і падтушыць яе на тлушчы.

Пячурыцы ці іншыя грыбы дробна нашаткаваць, дадаць да цыбулі, якая тушыцца, перамяшаць, тушыць на невялікім агні пад пакрыўкай. Пячурыцы дастаткова тушыць 10 мінут. Іншыя грыбы — даўжэй.

Абвараную гародніну нарэзаць макаронікам, дадаць да пячурыц, пасаліць і тушыць яшчэ пару мінут.

Таксама дробненька нарэзаць мяса, перамяшаць яго з рысам, пячурыцамі і гароднінай, дадаць пасечаную зялёную пятрушку, яйка і палавіну смятаны, перамяшаць, заправіць па смаку соллю, папрыкай і перцам.

Пералажыць усё ў вогнетрывалы посуд, паліць смятанай, пасыпаць цертай булкай і запячы ў духоўцы.

Падаваць запяканку гарачай, пасыпаўшы яе зелянінай пятрушкі ці кропам.

Можна дадаць памідорны ці смятанны соус і нейкую салату.

ГАСПАДЫНЯ




Сніцца мне, што ляжу на магіле на могільніку (не ведаю, чыя гэта магіла). На маім жываце стаяў жалезны крыж. Ён жалезны, але далікатна зроблены (карункавая работа). Я чую, што ён мне цяжкі, і я ўзяла і зняла яго з сябе і паставіла побач. А потым раптам я апынулася як бы ў кватэры суседа і суседкі (сужонства), але не на гэтым свеце, а ў загробным жыцці. Пабач іхняя дачка. І кажа: „Не ўспамінай мне маіх бацькоў, бо буду плакаць". У тым доме стаялі мае туфлі. Адны белыя, а другія таксама белыя, але заплямленыя. Я кажу сваёй маці: „Што ж ты зрабіла з маімі туфлямі?" Маці не магла сцерці тае плямы і памалявала туфлі на чорны колер. На тым канец.

Тамара

Тамара, сон твой сведчыць аб тым, што ў цябе на сэрцы ляжыць сумная справа. Ты ўжо раней пісала, што твайго малога сынка чакае цяжкая аперацыя, дык, пэўна, сон ізноў гэтага датычыцца.

Здаецца мне, што ўсё будзе добра, хаця не без смутку. Тыя чорныя туфлі твае абазначаюць сумнае падарожжа (былі заплямленыя — бо дзіця было хворае, маці памалявала іх на чорны колер — смутак у сувязі з аперацыяй у Варшаве).

Тое, аднак, што ты ляжала на магіле, абазначала б, што аперацыя пройдзе паспяхова. Могілкі абазначаюць здароўе і доўгае жыццё. А зрэшты, ты ж зняла з сябе той цяжкі крыж і паставіла побач. А крыж у сне — гэта вялікі сум у жыцці.

АСТРОН




Напісала нам спадарыня Яўгенія Ярмалковіч з Біскупца: "Proszę wyjaśnić, dlaczego nie otrzymuję od 23 sierpnia 1992 r. gaz. "Niwa", chociaż zapłaciłam za IV kwartały 1992 r. na konto ZG BTSK Białystok, ul. Warszawska 11 Nr konta NBP O/O Białystok 5021-3203-132. Przesyłam potwierdzenie wpłaty za III i IV kwartał. Proszę o wyjaśnienie i nadesłanie zaległych egzemplarzy".

**Ад рэдакцыі:** Просім прабачэння ў спадарыні Яўгеніі Ярмалковіч за клопаты з пастаўкай нашага тыднёвіка. Раней гэтым займалася ГП БГКТ у Беластоку. Ад часу, калі была зарэгістравана Праграмная рада тыднёвіка "Ніва", пастаўкай газеты чытачам у краіне і за мяжой займаецца наша рэдакцыя. Аб тым, што вы ўплацілі грошы на рахунак БГКТ Таварыства нас не паведаміла, і гэта было прычынай спынення пастаўкі. Бракуючыя экземпляры "Нівы" са жніўня, верасня і кастрычніка г.г. неадкладна Вам высылаем.

* * *

**Добры дзень "Ніва"!**

Найперш, хачу падзякаваць Вам за надрукаванне маёй абвесткі яшчэ 22 сакавіка сёлета. А цяпер пра галоўнае.

Пры Берасцейскай абласной бібліятэцы існуе і працуе "Клуб аматараў пэрыёдыкі". Мы, сябры Клуба, маем добрыя стасункі амаль з усімі беларускімі выданнямі за мяжой. Мы дасылаем ім разнастайную інфармацыю аб падзеях на Берасцейшчыне, падмацоўваючы яе фотаздымкамі, ксеракопіямі і мясцовымі выданнямі. Ад іх рэгулярна атрымліваем асобнікі гэтых выданняў, якія перадаем у Беларускі аддзел бібліятэкі. Хочам наладзіць такое ж супрацоўніцтва і з вашым штотыднёвікам.

Гэтым разам дасылаем Вам ліст-зварот да ўраджэнцаў і былых жыхароў Берасця з просьбай надрукаваць яго на Вашых старонках.

Ад імя
"Клуба аматараў перыёдыкі"
**Андрэй Адамчык**

*Сардэчна вітаюць Вас землякі і сябры з Берасця!*

*У нашай невялікай групе пакуль толькі некалькі аднадумцаў - людзей пасляваеннага пакалення. Уласныя веды па гісторыі горада і Берасцейшчыны, асабліва перыяду з 20-х да 50-х гадоў, мы не лічым дастатковымі і нас прываблівае ідэя папоўніць іх праз кантактаванне са старажыламі Берасця, у тым ліку і з тымі, каго лёс закінуў у іншыя гарады, краіны і кантыненты.*

*Не сумняваемся ў тым, што Ваша памяць захавала нямала цікавага і павучальнага для нас, жыхароў сённяшняга Берасця. Вельмі спадзяёмся, што Вы зможаце ў сваіх пісьмах расказаць хоць пра некаторыя вызначальныя на Ваш погляд эпізоды. Факты, паведамленыя Вамі, мы маркуем выкарыстаць для публікацый у мясцовым друку, а дакладныя друкаваныя выданні і іншыя матэрыялы перадаваць у гарадскія бібліятэкі і музей горада, які зараз ствараецца.*

*Мы будзем Вам вельмі ўдзячныя, калі Вы дашлеце свой даваенны адрас, напішаце некалькі слоў пра сваю сям'ю, успомніце прозвішчы суседзяў і сяброў. Спадзяёмся, што даведаемся ад Вас і цяперашнія адрасы вядомых Вам ураджэнцаў Берасця. Радыя будзем атрымаць інфармацыю пра грамадскія арганізацыі, друкаваныя выданні, пра ўсё, што ўваходзіць у кола нашае сціплае дзейнасці.*

*З радасцю адкажам на Вашыя пісьмы і запыты, пастараемся улічыць Вашыя прапановы і выканаць просьбы.*

*Жадаем Вам здароўя і поспехаў!*
*З павагаю*
*У. Камолаў, А. Адамчык*

Просім пісаць нам на адрас: **224030 Беларусь, Брэст - 30, а/с 45, Клуб аматараў перыёдыкі.**

Карыснае для здароўя

## НОГІ

Ногі трымаць у цяпле, галаву ў холадзе а бруха ў голадзе, будзеш здароў, пражывеш сто гадоў.

Мала слоў, дык шмат у іх сэнсу. Абутак павінен быць герметычны - не прапускаць вады і холаду. Цэлы год трэба спаць у порыстых лёгкіх шкарпэтках. Ад прастуды ног бярэцца шмат хвароб.

А як з жыватом?.. Не дзеля таго жывеш каб есці, а дзеля таго ясі, каб жыць!

Коратка, ды вельмі многа сказана. Утаймоўвай свае зайздросныя вочы на харчы. Зайздросная яда з'ядае твае дні на З я м л і.

**Інж. БАРЫСЛАЎ Ф. РУДКОЎСКІ**

## ВАРТА ВЕДАЦЬ

У шафе з'явілася цвіль — пакладзіце туды некалькі шарыкаў камфоры: яна паглыне вільгаць, і цвіль знікне.

* * *

Драўляныя падносы, падстаўкі, кухонныя дошкі мыйце адварам лушпін цыбулі, і яны захаваюць прыемны жоўты колер.

„Ніва"-ваш найлепшы прыяцель

## РАЗЕТКА-АСАЦЫЯТКА

*Гэты від разеткі вылучаецца тым, што замест азначэнняў падаюцца два словы, якія асацыіруюцца з адгадваемым словам.*

**Управа:** 1/ дрэва, ягада, 2/ лад, Парыж, 3/ жаба, поле, 4/ птушка, падкідыш, 5/ арганізацыя, палітыка, 6/ дошка, рэчка, 7/ стрыжань, корак, 8/ мука, цярпенне.

**Улева:** 1/ мяшок, заплечнік, 2/ замужжа, жанчына, 3/ авария, налада, 4/ пакрывала, ногі, 5/ грудзі, схованка, 6/ карта, трон, 7/ падстаўка, трыножак, 8/ засцерагальнік, затор.




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 38 н-ра. Упоперак:** студня, прысяга, журавіннік, джаз, сані, сеялка, лачка, аер, каўнер, нарман, Ява, Вітка, паілка, шлюз, шрот, бавоўнішча, кавалак, катрэн. **Уніз:** стадола, друз, яма, рынак, спіс, арбітр, жанчыналюб, веялка, калаэратура, сатрап, аснова, анілін, бастыён, ямшчык, апона, зала, шчыт, іск.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае: **Лукаш Пацэвіч** з Беластока. У чытачоў просім прабачэння за тое, што падчас друку прапалі азначэнні да слоў 20 і 29 уніз.





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamowić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МАКАТРАЗМЫ

### ВЯТРЫ „БЕЛАВЕЖСКІЯ”

По вёсках паўзе пагалоска —
Зуброў узнімаецца раць,
Каб апетыя Шведам палоскі
На выдавецкі фонд перадаць.

### ПРАТЭСТ

Прышлі дашкольнікі,
прышла эліта
Дзіцячага дома.
У руках плакат: „Зорка” без гномаў!

**СІДАР МАКАЦЁР**

### ХАЛАСЦЯКОВАЕ КРЭДА

— Чаму не жэнішся,
Фядот?
У адзіноце
Жыць жахліва!...

— Ты ж не купляеш
Піўзавод,
Як хочаш выпіць
Кухаль піва...

**МІХАСЬ МІРАНОВІЧ**







Малюнак А. Гармазы.

## ЖАРТЫ „ПЛЭЙБОЯ”

Пасля апошняга апытання насельніцтва, наша служба грамадскай думкі знайшла тры найлепшыя рэчы ў свеце: „марціні” перад тым і сон пасля.

* * *

Хто такі сапраўдны аматар музыкі? Мужчына, які прыціскае вуха да замочнай адтуліны, калі ён чуе, што ў ванне спявае дзяўчына.

* * *

Любоўнікі кахаюцца ў ложку, калі раптам чуецца стук у дзверы.
— Гэта муж! — крычыць жанчына. — Скачы ў акно!
— Але мы на трынаццатым паверсе! — спалохана адказвае казанова.
— Скачы! Цяпер не час для забабонаў!

* * *

Пасля года плавання марак вяртаецца дадому, дзе яго сустракае жонка з месячным дзіцём на руках.
— Так я і ведаў! — раз'юшана крычыць ён. — То мой сябра Том Джоўнс?
— Не, не ён, — адказвае жонка.
— Дык то мой сябра Ян Сміт?
— Не.
— Тады то мой сябра Пол Браўн?
— Твае сябры, твае сябры! Я што, не магу мець сваіх?!

* * *

Хто такі халасцяк? Мужчына, які не мае дзяцей. Вартых упамінання.

* * *

Начны парц'е чуе наступную размову за дзвярыма нумара, які займае маладая пара:
Ён: „Дарагая, ну дазволь жа!”
Яна: „Не!”
Ён: „Ну, каханая.”
Яна: „Не цяпер!”
Пад раніцу ён ізноў падыходзіць да дзвярэй таго самага нумара і чуе:
Ён (вельмі стомлены): „Каханая, ну калі ж?”
Яна (незадаволена): „Ну добра, можаш вынімаць!”

* * *

Мужчына стукае ў дзверы вясковага дома. Адкрывае дзяўчынка.
— Мне трэба пагаварыць з тваім бацькам, — кажа ён.
— Калі вы накont быка, дык ён каштуе 50 долараў і мае гаранты і ўсе неабходныя паперы.
— Я ж сказаў, што мне патрэбны твой бацька!
— Калі гэты бык дарагі, мы маем іншага за 25 долараў, ён мае неабходныя паперы, але без гарантый.
— Колькі трэба казаць, што я хачу пагаварыць з тваім бацькам!
— Калі і гэта задорага для вашай каровы, дык мы маем быка за 10 долараў, але і без папераў, і без гарантый.
—Слухай, пры чым тут быкі?! Твой брат зрабіў цяжарнай маю дачку!
— Тады вам і сапраўды трэба пагаварыць з бацькам, бо я не ведаю, колькі ён бярэ за Эдварда!

*З англійскай мовы пераклаў*
**АЛЕСЬ К.**

## СТАРЫ КАВАЛЕР

Мне трыццаць чатыры гады і хаця ўсе гавораць, што я стары кавалер, але старым я сябе яшчэ, дзякуй Богу, не адчуваю. Жыву я ў Беластоку, у двухпакаёвай кватэры. Па прафесіі інжынер-будаўнік. Вышэйшую адукацыю здабыў я таксама ў Беластоку. Вучыўся не так, каб вельмі добра, але экзамены здаваў і залікі атрымоўваў без асаблівых клопатаў.

Цяпер жыву я адзін, яшчэ як адзін, можна сказаць. Ніхто да мяне не заходзіць. Ну і слава Богу. Нашто мне гэты клопат. Праўда, прыйшла аднойчыАнуля, сяброўка з работы, наша бухгалтарша. Дзяўчына яшчэ ў гадах і патрымаць ёсць за што, і лытка нічога, і з твару таксама круглаватая.

Прыйшла, села, носам круціць. Думаю, чаго табе трэба, а яна выцягвае маю шкарпэтку, якая прапала ў мінулым годзе, і пытае:
— Што гэта?
Дурніца, думаю, не ведае што гэта шкарпэтка, але элегантна ёй адказваю:
— Дзякуй, што знайшла, гэта мая мінулагодняя згуба.
Скрывілася яна, сядзіць, нічога не гаворыць. Добра, думаю, што знайшла, а то ўжо новыя купляць збіраўся.
Пайшоў я на кухню чай рабіць, а яна пачала ў маіх кніжках шнырыць.
— Пачакай, — думаю, — вазьмі каторую, адразу пазнаю.
Але не ўзяла. Я прынёс чай, а яна, як хтосьці неразумны, пытае:
— А лыжачкі другой у цябе няма?
Вядома, што няма. Адной мне хопіць.
— Няма, — кажу.
— Дык можа гэтую я пайду памыю?
— А мый, — адказаў. Але розумам уцяміць не магу, чаго яна яшчэ на кухню палезла? Там жа нічагусенька няма, толькі стол і голыя сцены. А, праўда, гадзіннік ёсць, але ж яго не вынясе, ён завялікі, адразу пазнаю. Хутка вярнулася, лыжачку паказвае.
— Паглядзі, якая яна цяпер, — гаворыць.
— А чым ты яе мыла? — спытаў я.
— Парашком.
Я знерваваўся. То на тое я пачак парашку раз на паўгода купляю, каб яго на дурную лыжачку сыпаць?! Хопіць, думаю, яшчэ на якія страты ты мяне навядзеш. Гарбаты дзве лыжачкі ўсыпаў, чатыры лыжачкі цукру, можа жменю парашку на тую праклятую лыжачку пайшло?! А мне ўжо і за калена браць і пад блузку заглядаць адхацелася. Так знерваваўся!
Бабы, аднак, гэта дурная парода. Пакуль да чаго забярэшся, усяго адхочацца. Але як яе тут пазбыцца? Думаў, думаў, і на канец прыдумаў.
— От, прабач, — гавару, — па хлеб мушу схадзіць.
— То і я пайду з табою, можа яшчэ пірог і віно купім?
Не, ужо гэтага замнога! Віно! Пірог! Захацелася табе, але скора адхочацца!
— Ведаеш, у мяне штосьці ў хаце вельмі кусаецца і пры нагодзе якуюсьці трутку на гэтых насякомых куплю.
— Ой, прабач, я загаварылася і забыла, што на мяне сяброўка чакае.
Сказала яна гэта, апранула куртачку і пайшла. Чорт з табою, падумаў я, і больш яе не запрашаў.
Праз паўгода выйшла яна замуж. Спачатку крыху шкадаваў, але калі ўспамінаў яе прапановы накont віна і пірага, супакойваўся. Цяпер я сяджу ля акна, гляджу на людзей, якія кудысьці спяшаюцца. А я на работу і з работы. Булку хлеба на тыдзень і хопіць, яшчэ часам гарбату купляю. Дорага, але, што зробіш, часам і папіць трэба. Вада з крана ўжо мне зусім абрыдла.
Калі-некалі думаю сабе так: я такі добры хлопец, не п'ю гарэлкі, не куру, жыву ашчадна, і ўвогуле, такіх як я, не толькі ў нашым доме, але і ва ўсім Беластоку не сустрэнеш.
Хіба тут у горадзе людзі такія, што не ўмеюць цаніць сапраўднага чалавека?
Відаць, выдатныя людзі толькі пасля смерці цэняцца.

**ЯЛАНТА ГРЫГАРУК**




Міленькае Сэрцайка! Мне 18 гадоў, я адчуваю сябе зусім даспелай. Вучуся ў ліцэі, хутка скончу яго, а маім бацькам усё яшчэ здаецца, што я маленькае дзіця. Не магу ні з кім сустрэцца ў хаце, нікога да сябе запрасіць нельга. Тое, што я перажываю ў сваім жыцці (маю на думцы сардэчныя справы), усё адбываецца па-за домам.

Ну і што з тых забаронаў?! Я і так знайду месца, дзе сустрэнуся з каханым хлопцам. Асабліва летам месца шмат. Можна ж кахацца і пад голым небам.

Цяпер восень, пахаладала. Але лета, успамінаю, было цудоўнае. Вечарам я пайшла на дыскатэку. Там было даволі многа маіх сяброў і сяброўак. Але быў там таксама хлопец, па якім я сохну. Ён вельмі прыстойны, і кожная з маіх сяброўак ахвотна стала б яго дзяўчынай. Я добра бавілася ўвесь вечар. Гэты хлопец запрашаў і мяне, але гуляў таксама з іншымі.

У грамадзе пайшлі мы дахаты. Мяне праводзілі два хлопцы: той, што мне так моцна падабаецца, і другі, мой сябра са школы. Па дарозе мы вырашылі, што ісці дахаты яшчэ рана. Хлопцы купілі ў начным магазіне віно, і мы пайшлі ў парк, каб выпіць яго.

На некаторых лавачках яшчэ сядзелі закаханыя пары, але мы выбралі зацішнае месца, дзе нікога не было. Цадзілі тое віно памаленьку і размаўлялі. Гэты хлопец, што мне так падабаўся, цмокнуў мяне раз, другі. Тады абняў мяне і прытуліў да сябе.

Другі ўзлаваўся. „Давай пацягнем, — кажа, — запалкі, то будзем ведаць, з кім яна застанецца!” Я зразумела, што і ён неабыякавы ў адносінах да мяне. А мо гэта прамовіў толькі яго гонар...

Хлопцы пацягнулі запалкі. Выйшла, што той хлопец, які мне падабаецца, павінен быў ісці дахаты. Мне раптам стала ўсё абыякавым. Чаго я тады буду тут сядзець?.. Захацелася дадому.

Той другі пачаў дамагацца сваіх „правоў”, бо ж ён выйграў, а сябра не ідзе дахаты. Тады я міжволі прытулілася да хлопца маіх мараў і мы пацалаваліся. Сябра ў злосці падскочыў да нас і сунуў кулаком у нос маёй сімпатыі. Той ускочыў з месца, і яны пачалі біцца.

Сумна мне было, калі мой сябра са школы адыходзіў з акрываўленым носам. Але я ведала, што я засталася з тым, з кім хацела. Мы доўга пасля кахаліся на лаўцы: я села на яго калені, і нават, калі хтосьці праходзіў побач, дык нічога не заўважыў. Мушу, мяне аднак, сумленне, што я пакрыўдзіла свайго школьнага сябру.

**Ёля**

Ой, Ёля, Ёля! Твае бацькі маюць рацыю, што табе на пэўныя рэчы не дазваляюць. Уяўляю сабе, колькі гульняў і забаваў ты б магла яшчэ прыдумаць у іх хаце. Прынамсі прыбіраць не мусяць за вамі.

Калі ўжо так сур'ёзна трактуеш гульню ў запалкі, дык маеш яшчэ час, каб аддаць той доўг свайму школьнаму сябру. Але ж ты казала, што падабаўся табе першы...

Ёля! Вазьмі лепш кнігу ў рукі!

**СЭРЦАЙКА**